



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

26 верасня 2014 года №39 (1013)



**Той, хто малады душой, кожную нядзелю танцуе ў парку**
Што аб'ядноўвае бойкіх бабулек ды пасівелых рыцараў старонка 21

**На чэмпіянат свету паехаў з бензапілой**
Валіць лес, дык у Швейцарыі. Ляснік з Вілейшчыны памагаўся з лепшымі лесарубамі свету
старонка 2

**Рыхтуюцца даць у дамы цяпло** с. 3

**Старыя тэлевізары выкідваць пакуль рана** с. 20

**Выйграй білет на канцэрт "Без білета"** Конкурс с. 23


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Выберуць лепшыя краязнаўчыя фільмы

**ВІЛЕЙКА.** Рэгіянальнае свята-конкурс краязнаўчага кіно "Гэта мой край" пройдзе 27 верасня ў кінатэатры "Мір" у Вілейцы. Напачатку прэзентуюць маладзевую тэлестудыю "Кола-ТВ" Вілейскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа. Пройдзе паказ конкурсных фільмаў. Запланаваная сустрэча з генеральным дырэктарам "Беларусьфільма" **Алегам Сільвановічам**, ён жа старшыня журы. Пакажуць фільм "Кіндэрвілейскі прывід". Наведнікі пабачаць выставы "Па сцяжынках Першай сусветнай", "Прамэнад" па вуліцах Вілейкі. Пачатак у 10 гадзін.

### Без святла засталіся 10 вёсак

**СМАРГОНЬ.** Электраэнергія ў Смаргонскім раёне знікла вечарам 22 верасня. Без электрычнасці апынуліся 10 населеных пунктаў Крэўскага сельсавета, 15 трансфарматарных падстанцый. Без святла засталіся 102 жылыя дамы, адзначае БелТА. Паводле папярэдняй версіі, прычынай аварыі магло стаць падзенне галінкі дрэва на высакавольтную лінію электраперадачы. На наступны дзень непаладкі выправілі.

**Аддзел інфармацыі.**



# Вёў на прывязі за грашыма па Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. Два жыхары Вілейскага раёна пабілі трэцяга, Аляксея, і ўтрымлівалі яго на чужой кватэры. А потым адвялі дамоў на прывязі.**

Пачалася ўсё з таго, што ў знаёмага з іх кампаніі зніклі грошы. Ён чамусьці падумаў, што гэта зрабіў Аляксей. 53-гадовы Дзмітры і 50-гадовы Леанід (імёны змененыя) узяліся яму дапамагчы.

У маладзейшага за іх, Аляксея, яны ўзялі распіску, што аддасць грошы.

### "Будзеш сядзець тут, пакуль не вырашу, што рабіць"

Калі Аляксей папрасіў адпусціць яго, Дзмітры сказаў прыкладна так: "Як толькі пойдзеш з кватэры, ты ж абавязкова звернешся ў міліцыю. Раскажаш, што мы цябе пабілі. Будзеш сядзець тут, пакуль не вырашу, што рабіць".

Такім чынам у кватэры дома па вуліцы Камарова ў Вілейцы ноччу 27-28 лістапада ад 23:30 да 4:30 ночы Дзмітры і Леанід з пагрозай прымянення насілля супраць волі ўтрымлівалі віляйчаніна Аляксея, абмяжавалі яго перамяшчэнне. Даводзілі, што ўсялякая спроба збегчы толькі нашкодзіць яго здароўю. Абодва былі п'яныя.

Адразу забараняў ісці з кухні Леанід. Потым ён разбудзіў Дзмітрыя, каб той наглядаў за мужчынам.

Каб выбрацца з кватэры, раніцай Аляксей прапанаваў: "Пойдзем да мяне дамоў, маці дасць грошы".

**Дзмітры адарваў кавалак электрычнага кабелю і прывязаў руку пацярпелага да сваёй. Так на прывязі і правёў яго дадому. Вёў па вуліцах ранішняга горада каля паўгадзіны.**

Але з кватэры выйшаў бацька пацярпелага і прагнаў Дзмітрыя.

Дома Аляксею, якога ноччу збівалі, стала кепска. Выклікалі "хуткую дапамогу", і так пра здарэнне даведаліся ў міліцыі.




Падзеі ў Вілейцы развіваліся як у сюжэце комікса. Мужчына вадзіў меркаванага даўжніка па начным горадзе ледзь не паўгадзіны, каб той вярнуў грошы, якія нібыта ўзяў.

### Версія: прывязаў, каб Аляксею было лягчэй ісці

Адбылося гэта ў лістападзе мінулага года.

Сёлета 25 жніўня адбыўся суд. Леанід цалкам прызнаў сваю віну, чыстасардэчна раскаяўся.

Дзмітры абараняўся такой версіяй. Ён не ведае, што рабіў напарнік да таго, як разбудзіў яго. А пацярпелага прывязаў па яго просьбе, каб таму было лягчэй ісці.

Суд гэтай версіі не паверыў і пагадзіўся з прад'яўленым абвінавачваннем. А з улікам таго, што ў Дзмітрыя ўгледзелі небяспечны рэцыдыў злачынстваў, яму прызначылі пакаранне – тры гады пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.

Леанід з улікам раскаяння атрымаў два гады ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму. Яго накіруюць на прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

Па амністыі абодвум пакаранне зменшылі на год.

Дзмітры раней судзімы дзевяць разоў, пераважна за крадзяжы. Леанід – двойчы.

Пра гэта распавёў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Віктар Гатоўка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СПАБОРНІЦТВЫ

# На чэмпіянат свету паехаў з бензапілой

## Валіць лес, дык у Швейцарыі. Ляснік з Вілейшчыны пазмагаўся з лепшымі лесарубамі свету

**ВІЛЕЙКА. Валеры Дуровіч з Крывога Сяла ў сярэдзіне верасня вярнуўся з сусветнага чэмпіянату лесарубаў у Швейцарыі.**

Чаму для яго Беларусь лепшая, чым Швейцарыя, і якога талісмана камандзе не хапала на спаборніцтвах?

Ляснік Куранецкага лясніцтва ўзяў удзел ужо ў трэцім чэмпіянаце свету. Асабліва ўдалым выдаўся другі, які праходзіў два гады таму ў Беларусі. Тады ў асабовым заліку Валеры заваяваў серабро і бронзу, а каманда заняла трэцяе месца. А вось у Швейцарыі трапіць у прызёры не ўдалося.

– Можа, пералёт сказаўся ці не адаптаваліся да горнага клімату – не ведаю. Не наш дзень быў. Усё да аднаго склалася, плюс маленькае нешанцаванне, – кажа Валеры.

У спаборніцтвах лесарубаў на такім узроўні – усё, як у вялікім спорце. І любая, на наш погляд, дробязь можа мець вырашальнае значэнне.

– Там біябензінам карысталіся, а не сваім. Мы трэніруемся на 98-м бензіне, з ім піла хутчэй рэжа. А ўсё ж вырашаюць нават не секунды, а долі секунды.

Удзельнікі сусветнага чэмпіянату спаборнічалі ў пяці дысцыплінах. Яны ўключаюць у сябе валку дрэва на дакладнасць, замену ланцуга на піле і іншае.

**– Які самы любімы від?**

– Абразанне сукоў. На бервяне забіваюць пад рознымі вугламі 30 сукоў. Трэба іх абрэзаць хутка, дапілаваць да канца, выступаў не пакінуць. У рэспубліцы па гэтым першы, рэдка хто можа абагнаць. І цяпер думаў узяць медаль. Абрэзаў сукі хутка, аднак два штрафы атрымаў.

У камандным заліку чэмпіянату перамагла зборная Германіі. Беларусы сталі пятымі з 30 краін. Нядрэнна, але меркавалі, што будзе лепш.




Фота roslesho z.gov.ru

**Валеры Дуровіч рыхтуецца да чарговага практыкавання на чэмпіянаце Расіі "Лесаруб-2014" у Кіраве.**

– У нас моцная каманда. Нас ужо ведаюць і паважаюць.

### Да тытула чэмпіёна ішоў дзевяць год

Пачаў Валеры сваю спартыўную кар'еру са спаборніцтваў Вілейскага лягаса.

– Штосьці разумеў, штосьці не – першы ж раз прыехаў. Удалося: паваліў дрэва на калок (ён у 15 метрах ставіцца, і трэба патрапіць на яго дрэва паваліць). Заўважылі, прапанавалі на больш высокім узроўні ўдзельнічаць. Стала атрымоўвацца. І злосць спартыўная з'явілася: хочацца яшчэ лепш выступіць.

Трэніруецца ён звычайна пасля працы, у свой асабісты час. Толькі перад чэмпіянатам свету на месяц вызваляюць ад працы.

Хоць у Валерыя шмат узнагарод з міжнародных спаборніцтваў, ён усё ж асабліва выдзяляе тытул чэмпіёна Беларусі.

– Так атрымлівалася, што за мяжой выступаў лепш, чым на рэспубліцы. У Расіі шмат медалёў заваяваў, у Эстоніі, Літве. А вось дома – нейкае нешанцаванне было. Усё не ўдавалася стаць чэмпіёнам, то "серабро", то "бронза". А сёлета нарэшце перамог. Спатрэбілася на гэта дзевяць год.

### Без Біма няма шанцавання

Ёсць у каманды свой талісман – паляўнічы сабака Бім. Сябра **Віктар Зарэмба** са Смалявічаў возіць яго на спаборніцтвы.

– Каб мы ўзялі Біма з сабой у Швейцарыю, нам бы болей пашанцавала, – усміхаецца Валеры. – Ён суправаджае каманду на спаборніцтвах у Беларусі. Дзе бралі Біма з сабой, заўсёды добра выступалі. Але ж у Швейцарыю яго не возьмеш.

У прамежках паміж спаборніцтвамі ўдалося крыху паглядзець альпійскую краіну. У захапленні застаўся ад працавітасці людзей, якія займаюцца сельскай гаспадаркай: як яны ўмудраюцца ў гарах жывёлу пасвіць.

– Але хай бы там і прапанавалі застацца, далі працу – не. Папраўдзе, наша Беларусь лепшая. Гэта ж – Радзіма, дом, – падсумоўвае Валеры.

Так, хоць Швейцарыя падалася яму цудоўнай і прыгожай краінай, па Беларусі за чатыры дні ляснік паспеў засумаваць.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

● СВЯТЫ

## Мядзельскай міліцыі споўнілася 75

**МЯДЗЕЛ. У гарадскім Доме культуры 19 верасня адзначылі 75-годдзе стварэння Мядзельскага РАУС.**

Мясцовая міліцыя вядзе адлік якраз ад 19 верасня 1939 года. У самым пачатку яна налічвала каля 30 супрацоўнікаў.

На свята сабраліся ветэраны і супрацоўнікі райаддзела. Пабачылі яны выставу фотаздымкаў з гісторыі мядзельскай міліцыі. Тут жа былі даўнейшыя міліцэйскія даведнікі.

На свяце ўшанавалі лепшых супрацоўнікаў. Узнагароды ўручылі старшыня Мядзельскага райвыканкама **Ілля Шацько**, намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама **Эдуард Ярашук**. Агулам узнагародзілі каля дваццаці супрацоўнікаў.

Мясцовыя артысты павіншавалі праваахоўнікаў песнямі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Памёр Георгі Каржанеўскі

**ВАЛОЖЫН. Грамадскі актывіст валожынец Георгі Каржанеўскі памёр ва ўзросце 65 гадоў 20 верасня ў выніку інсульту.**

Аб гэтым паведаміў сайт беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў bchd.info.

"Рэгіянальная газета" сёлета пісала пра тое, як Георгі Каржанеўскі змагаўся за спыненне будаўніцтва жылых дамоў на месцы расстрэлаў і пахаванняў валожынскіх яўрэяў, ахвяр Галакосту.

Імша па нябожчыку прайшла ў Валожынскім касцёле святога Юзафа, пахаванне адбылося 21 верасня ў вёсцы Нягневічы Навагрудскага раёна.



Фота svaboda.org

**Грамадскі дзеяч з Валожына Георгі Каржанеўскі.**

Георгі Мікалаевіч нарадзіўся 2 студзеня 1949 года ў вёсцы Аўдзеевічы Навагрудскага раёна, піша bchd.info. У 1967 годзе скончыў Пінскі гідратэхнікум, а ў 1977-м – Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці інжынер-гідратэхнік. У 1977 годзе быў узнагароджаны дыпломам "За лепшую навуковую студэнцкую працу ў СССР".

Працаваў на будаўніцтве Ленінградскай АЭС, Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, на прадпрыемстве "Мінскводбуд".

Апошнім часам ён рыхтаваў да выдання сваю кнігу "Мікола Гусоўскі і яго час", але апублікаваць не паспеў. Георгі Каржанеўскі быў упэўнены, што Мікола Гусоўскі нарадзіўся на Валожыншчыне.

Шмат сіл аддаў Георгі Мікалаевіч, змагаючыся супраць будаўніцтва буйнога свінакомплексу паблізу Налібоцкай пушчы.

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае свае спачуванні родным і блізкім Георгія Мікалаевіча.**

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Рыхтуюцца даць у дамы цяпло

**МАЛАДЗЕЧНА. Навошта прадзімаюць трубы высокім ціскам, чаму ў кватэрах пакуль няма тэрмарэгулятараў і калі ў кватэрах з'явіцца цяпло.**




Цяпла ў кватэрах чакаюць усе члены сям'і, нават тыя, хто мае футра.

У міжацяпляльны сезон спецыяльныя службы выканалі работы па апрасоўцы цеплавых сетак.

– Пры дапамозе высокага ціску прадзімаюць трубы, – заўважае **Аляксандр Бобрык**, начальнік маладзечанскага міжраённага аддзялення "Энергангагляд". – Калі вытрымліваюць, значыць, зімой праблем не павінна быць. Летась і пазалетась праблем з цепласеткамі ў горадзе не было.

### Тэрмарэгулятары ёсць на ўсіх цеплапунктах

У многіх краінах у кватэрах ставяць тэрмарэгулятары, каб чалавек мог рэгуляваць цяпло пад сябе.

– Агульныя тэрмарэгулятары ставяць у дамах, дзе больш за 20 кватэр, – распавядае Аляксандр Бобрык. – Стаяць яны ў Маладзечне на ўсіх цеплапунктах. Пакуль неабавязкова, каб яны былі ў кожнай кватэры.

Да 1 кастрычніка ўсё павінна быць падрыхтавана да ацяпляльнага сезона.

Уключаць цяпло ў кватэрах, калі сярэдняя тэмпература будзе не вышэй за +8 цягам пяці дзён.

**Галіна СІНІЦА.**

**Наколькі падрыхтаваныя цеплавыя сеткі на 22 верасня**

| Раён | Працэнт падрыхтаванасці |
|---|---|
| Валожынскі | 53% |
| Вілейскі | 83% |
| Маладзечанскі | 70% |
| Мядзельскі | 81% |

**Наколькі падрыхтаваныя спажыўцы цеплавой энергіі на 22 верасня**

| Раён | Працэнт падрыхтаванасці |
|---|---|
| Валожынскі | 63% |
| Вілейскі | 58% |
| Маладзечанскі | 69% |
| Мядзельскі | 83% |

● ЗАХАПЛЕННІ

## Рыбак вылавіў шчупака вагой 10 кілаграмаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю прыйшоў наш чытач Віктар Вайтовіч, каб падзяліцца сваёй радасцю. На днях яму ўсміхнулася рыбацкае шчасце: на яго вуду трапіў вялізны шчупак.**

Віктар Вайтовіч, рыбак з 15-гадовым стажам, упершыню злавіў такую вялізную рыбіну.

– Яна не здавалася мне 40 хвілін! – кажа рыбак. – Калі я ўбачыў, што цягну з вады, нават забыўся, дзе я і чаго прыехаў!

Шчупака Віктар Вайтовіч злавіў у рацэ Нёман, у Навагрудскім раёне, непадалёк ад мястэчка Шчорсы.

Самае дзіўнае, што ўнутры гэтай рыбіны была таксама вялікая рыба. Так што шчупак Віктару дастаўся, можна сказаць, фаршыраваны.

– А сам мой улоў быў таксама пакусаны, гэта значыць, што ў Нёмане водзіцца яшчэ большая рыба. Так што бяру вуду і зноў паляваць на больш буйную здабычу, – гаворыць Віктар Вайтовіч.

Свайго шчупака маладзечанскі рыбак пусціў на фарш. У яго атрымалася 5 кілаграмаў чыстага рыбнага фаршу.

**Наталля ТУР.**

| Курсы валют НБ РБ | 18.09 | 25.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 520,00 | **10 560,00** |
| Еўра | 13 630,00 | **13 580,00** |
| Злоты | 3 254,09 | **3 247,43** |
| Літ | 3 948,73 | **3 930,91** |
| Расійскі рубель | 274,00 | **275,50** |
| Грыўня | 765,09 | **818,60** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13590/13710 | **13550/13680** |
| Долар ЗША | 10500/10540 | **10540/10590** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 17.09 | 24.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 50900 | **50900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31900 | **29900** |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | 110000 | **-** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 99900 | **99900** |
| Рыс, 0,9 кг | 13200 | **13000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 5650 | **5650** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 9500 | **9500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **6000** |
| Капуста, 1 кг | 4500 | **3800** |
| Морква, 1 кг | 6000 | **5800** |
| Буракі, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 47000 | **43000** |
| Апельсіны, 1 кг | 17500 | **17000** |
| Мандарыны, 1 кг | 27500 | **27000** |
| Памідоры, 1 кг | 8500 | **7200** |
| Агуркі, 1 кг | 12500 | **12500** |
| Кавун, 1 кг | 6700 | **6000** |
| Дыня, 1 кг | 12000 | **10000** |
| Вінаград, 1 кг | 18500 | **16500** |
| Бананы, 1 кг | 14500 | **15500** |
| Яблыкі, 1 кг | 9000 | **6900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 22000 | **20500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4200 | **4600** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |

● ЗДАРЭННІ

## Браканьер налавіў рыбы на 15 мільёнаў рублёў

**ВІЛЕЙКА. Каля 22 гадзін 17 верасня на Вілейскім вадасховішчы работнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымалі жыхара Вілейскага раёна.**

Адбылося гэта каля вёскі Рабунь.

Мужчына з выкарыстаннем двух сетак незаконна здабыў чатыры судакі, 14 карасёў срэбных і 18 ляшчоў.

У парушальніка забралі дзве сеткі, гумовую надзіманую лодку і 23 кілаграмы рыбы, паведаміў старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла**.

Мужчыну давядзецца кампенсаваць прычыненую навакольнаму асяроддзю шкоду на суму 13 мільёнаў 800 тысяч рублёў. А таксама – кошт рыбы. Гэта яшчэ амаль адзін мільён дзвесце тысяч рублёў.

За ўчыненае злачынства грамадзяніну можа пагражаць штраф або пазбаўленне волі на тэрмін да двух год.

**Аддзел інфармацыі.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Вінаваты кіроўца – пакараюць кіраўніка, які дапусціў да работы

**ВАЛОЖЫН. Жыхар вёскі Доры, работнік адкрытага акцыянернага таварыства "Тарасава", паўторна затрыманы за язду ў нецвярозым стане. Яго кіраўніцтва ведала, што ён пазбаўлены правоў кіравання, але дапусціла да руля.**

Раней асуджаны за кіраванне ў нецвярозым стане, 47-гадовы жыхар вёскі Доры, праігнараваўшы рашэнне суда, зноў сеў за руль пагрузчыка "Амкадор".

Цяпер мужчыну пагражае да трох гадоў пазбаўлення кіравання транспартнымі сродкамі і трох гадоў турэмнага зняволення. Што датычыцца непасрэдных кіраўнікоў работніка таварыства "Тарасава", то Следчы камітэт будзе настойваць на строгай дысцыплінарнай адказнасці. Пра гэта паведаміў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага следчага камітэта **Ілля Глінскі.**

**Наталля ТУР.**

● НАШЫ ГРОШЫ

## Выводзяць з абарачэння 50-рублёвыя банкноты

Ад 1 студзеня 2015 года спыняецца выпуск і абарачэнне банкнот Нацыянальнага банка Беларусі наміналам 50 рублёў узору 2000 года. Да 1 ліпеня 2015 года банкноты наміналам 50 рублёў падлягаюць прыёму пры ўсіх відах плацяжоў усімі суб'ектамі гаспадарання, у тым ліку і банкамі краіны.

**Паводле БелТА.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Скралі 12 ровараў

**МАЛАДЗЕЧНА. Шэраг крадзяжоў веласіпедаў здзейснілі двое маладых маладзечанцаў.**

Яны пачалі красці летась у чэрвені. У кожным выпадку абставіны былі падобныя.

Загадзя дамовіўшыся, маладыя людзі заходзілі ў пад'езды шматпавярховак, дзе былі ровары. Нягледзячы на тое, што ровары былі на замках, злодзеі іх кралі.

Потым яны везлі скрадзены транспарт электрычкай на рынак "Ждановічы". У апошні раз яны папрасілі памагчы ім двух сваіх знаёмых. Не тлумачылі, дзе ўзялі ровары, а проста папрасілі перавезці пяць штук.

**Тое, што пяць ровараў перавозілі чацвёра маладзёнаў, выклікала падазрэнне ў міліцыянераў. Таму іх і затрымалі.**

Агулам злодзеі скралі 12 ровараў агульным коштам на 18,5 мільёна рублёў.

Падчас папярэдняга следства падазроныя цалкам прызналі віну і выплацілі матэрыяльную шкоду.

Суд прыгаварыў маладзёнаў да абмежавання свабоды на 2,5 года без накіравання ў папраўчую ўстанову. Прыгавор уступіў у законную сілу. Па амністыі абвінавачаным зменшылі пакаранне на адзін год.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК,**
**памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 3 класа.**

Маладзечаншчына ўвайшла ў тройку лідараў па колькасці крадзяжоў ровараў

46

выпадкаў зарэгістравана за сем месяцаў

Па Мінскай вобласці

470

ровараў скралі сёлета на Міншчыне цягам сямі месяцаў

42%

На столькі павялічылася колькасць крадзяжоў у параўнанні з мінулым годам

!

Найчасцей ровары крадуць з-за нядбайнасці гаспадароў

Інфаграфіка Насці РОЙДЫ.

СЛУЖБА 101

## На пажары загінулі грамадзянка Літвы і яе брат

**МЯДЗЕЛ. Каля шасці гадзін раніцы 19 верасня паступіла паведамленне пра пажар у жылым доме ў вёсцы Засвір Свірскага сельсавета.**

Па прыбыцці выратавальнікаў дом быў у дыме.

У хаце знайшлі два целы: 46-гадовага гаспадара дома і яго 54-гадовай сястры, грамадзянкі Літвы. Яна напярэдадні прыехала з Вільні, каб аформіць дакументы на дом.

Дом моцна не пацярпеў, выгараў адзін пакой. А людзі атруціліся прадуктамі гарэння, расказаў інжынер нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Малько**.

Усе акалічнасці трагедыі высвятляюцца.

**Аддзел інфармацыі.**

## У цэнтры Мядзела згарэў нежылы дом

**МЯДЗЕЛ. Уначы ў суботу, 20 верасня, у райцэнтры па вуліцы імя Крупскай згарэў дом. Выклік мядзельскім выратавальнікам паступіў пасля дзвюх гадзін.**

Прыбылі яны праз некалькі хвілін, але дом ужо гарэў адкрытым полымем.

У выніку дом знішчаны. Ён быў нежылы, ад электрычнасці адключаны. Прычына пажару высвятляецца. Пра гэта расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзяніс Малько.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Выйшлі на "хвілінку" – дом ратавала МНС

**СМАРГОНЬ. Здарэнне адбылося 17 верасня ў Смаргоні. Гаспадары дома пайшлі ў госці да знаёмай, а электрычную грэлку пакінулі ўключанай.**

Раніцай у сераду гаспадыня дома адчула сябе блага. Яна ўключыла электрычную грэлку і прылягла ў ложак. Неўзабаве ёй патэлефанавала знаёмая і папрасіла прыйсці да яе. Муж з жонкай, забыўшыся і пра галаўны боль, і пра электрагрэлку, якую пакінулі ўключанай, накіраваліся ў госці да знаёмай.

Вярнуўшыся дадому праз некалькі гадзін, заўважылі, што з іх дома ідзе дым. Выратавальнікі, што прыехалі на месца здарэння, праз 15 хвілін патушылі пажар. Забыўлівасць гаспадароў каштавала ім таго, што ў двух жылых пакоях згарэла мэбля, закурыліся сцены і столь. Пацярпелых няма.

**Паводле mchs.gov.by.**



НАВІНЫ

## Двое мінчан загінулі на чыгунцы Мінск-Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА.** Няшчасныя здарэнні адбыліся з розніцай у некалькі дзён, і абодва – з-за няправільнага пераходу пуцей.

Пра гэта распавяла старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце **Таццяна Субач**.

У нядзелю, 14 верасня, каля 16:30 мужчына перабягаў пуці на прыпыначным пункце "Селівонаўка". Мінчаніна смяротна траўмавала электрычка. Яму было 47 гадоў.

Вечарам у сераду, 17 верасня, грузавы цягнік збіў жанчыну на прыпыначным пункце "Пралескі". 87-гадовая мінчанка выйшла з электрычкі і пераходзіла чыгунку не па пешаходным насціле. Яна загінула.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Шукаюць відавочцу аварыі ля Красоўшчыны

**МАЛАДЗЕЧНА.** Следчы камітэт шукае маладога мужчыну, відавочцу ДТЗ, які нажом разрэзаў рамяні бяспекі ў пацярпелага кіроўцы і пасажыра БМВ.

Гэты чалавек вынес іх на абочыну.

Аварыя адбылася апоўдні 4 верасня каля вёскі Красоўшчына на аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач. Кіроўца цёмна-сіняга ўніверсала БМВ-520і ехаў на Маладзечна. Ён выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з грузавым аўтамабілем МАЗ з белай кабінай. МАЗ рушыў на Мінск.

У выніку аварыі пасажыр БМВ ад пашкоджанняў памёр у рэанімацыі Маладзечанскай бальніцы.

Пераканаўча просім відавочцаў гэтага здарэння пазваніць па тэлефоне (80176) **77-04-69** ад 9 да 18 гадзін па рабочых днях следчаму **Віктару Вікенцьевічу Зяневічу**. Можна звярнуцца ў кабінет 211 Маладзечанскага райаддзела СК.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта.**

## Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на праезд пераходаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 15 да 25 верасня праходзіць прафілактычная акцыя "Бяспечны пераход!".

Яна накіраваная на прафілактыку дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў.

Кіроўцы павінны звяртаць асаблівую ўвагу на праезд пешаходных пераходаў і ўнутрыдваровых тэрыторый.

## Праходзіць акцыя "Бяспека"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 23 да 27 верасня будзе праходзіць спецыяльная аперацыя "Бяспека".

Яна накіраваная на папярэджанне няшчасных здарэнняў на чыгунцы.

## Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пройдзе 26 верасня

**МАЛАДЗЕЧНА.** 26 верасня, у пятніцу, пройдзе адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Светлавы дзень скарачаецца – небяспека павялічваецца!".

Асаблівую ўвагу супрацоўнікі ДАІ звернуць на бяспеку пешаходаў, веласіпедыстаў, возчыкаў гужавога транспарту ў цёмны час сутак.

**Паводле інфармацыі Дзмітрыя ЮРКЕВІЧА, начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

● КОНКУРСЫ

# Маладзечанскія педагогі жартавалі лепш за ўсіх у КВЗ

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанская каманда "Пятая чвэрць" выйшла ў фінал абласнога Клуба вясёлых і знаходлівых педагагічных работнікаў "Педагагічны марафон".**

Адборачны тур адбыўся ў гімназіі-каледжы мастацтваў у Маладзечне 18 верасня.

Акрамя гаспадароў, у ім прынялі ўдзел каманды педагогаў Валожынскага, Мінскага, Лагойскага і Мядзельскага раёнаў.

### Пераследуе лічба 5

Рыхтаваў і вёў да поспеху нашу каманду кіраўнік і галоўны сцэнарыст **Сяргей Кірпічнікаў** (СШ №2). Як патлумачылі ўдзельнікі гульні, адпачынак – лепшы час для настаўнікаў, таму яны вырашылі назваць каманду "Пятая чвэрць". Падтрымала назву эмблема на майках ў выглядзе рознакаляровых далонек ("пяцюня").

– Нас проста пераследуе лічба 5. Глядзіце: пятая чвэрць, "пяцюня" ды яшчэ выступаем пад пятым нумарам! Гэта знак, таму мы спадзяёмся, што зоймем менавіта першае месца, – пажартавала перад пачаткам гульні **Юлія Мароз**, настаўніца англійскай мовы ў гімназіі №6.

Жадаю маладым людзям поспехаў, даю ім "пяць" і спускаюся ў залу.

### Выбралі капітана за прыгожы голас

Прывітанне прайшло на "ўра". Кожную мініяцюру нашы настаўнікі прадставілі недарэчным, але смешным вершам ў непераўзыдзеным выкананні **Генадзя Пшэніка**, педагога тэатральнага майстэрства гімназіі-каледжа мастацтваў.

Самым смешным і непрадказальным этапам стаў конкурс капітанаў "Біятлон". Капітанам нашай каманды выбралі настаўніка англійскай мовы гімназіі-каледжа мастацтваў **Максіма Міхайлава** за самы прыгожы голас. Цудоўная падача трапных, добра прадуманых жартаў у яго выкананні прынесла маладзечанцам максімальны бал за этап.


Фота Андрэя МАЛЬКО

Удзельнікі маладзечанскай каманды "Пятая чвэрць" гульні ў КВЗ Святлана Ермаловіч і Канстанцін Бондараў.

Дамашняе заданне атрымала назву "Аксамітны сезон". І калі астатнія каманды "з'язджалі" на курорты ў сваіх выступленнях, то маладзечанцы і тут адзначыліся. Іван-педагог адправіўся на пошукі таго самага аксамітнага сезона, сустрэўшы на сваім шляху і Бабу Ягу, і Кашчэя Бессмяротнага.

### Маладзечанцы паказалі ўзор гульні ў КВЗ

Нягледзячы на занятасць настаўнікаў, ніхто з іх не шкадуе, што ўдзельнічаў у КВЗ.

– Кожная рэпетыцыя – гэта такі зарад энергіі, бадзёрасці і гумару! – дзеліцца ўражаннямі **Максім Самаль**, настаўнік гісторыі СШ №5. – З аднаго боку – самаіронія, жартоўная рэфлексія над сваёй дзейнасцю, з іншага – псіхалагічная разрадка. У нас у камандзе нават ёсць асабісты псіхолаг.

У камандзе "Пятая чвэрць" выступілі таксама **Вікторыя Капелька**, педагог-арганізатар СШ №4, **Руслан Ступакоў**, педагог-псіхолаг СШ №1, **Ксенія Конанава**, педагог-арганізатар гімназіі №3, **Святлана Ермаловіч**, настаўніца англійскай мовы Красненскай СШ. А наяўнасць у камандзе харэографаў **Андрэя Малько** (гімназія №6) і **Канстанціна Бондарава** (СШ №14) дапамагла зрабіць выступленне нашых настаўнікаў больш танцавальным і музычным.

Паводле слоў членаў журы, педагогі Маладзечанскага раёна паказалі ўзор гульні ў КВЗ. У кожным з этапаў конкурсу нашы ўдзельнікі набралі максімальную колькасць балаў, атрымаўшы безумоўную перамогу!

Фінальная гульня абласнога этапу конкурсу КВЗ сярод педагогаў "Педагагічны марафон" запланаваная на кастрычнік.

**Карына КІСЕЛЬ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

СВЯТА

# На свяце Мядзела танцавалі ойру

**МЯДЗЕЛ. Вялікі князь Літоўскі Гедымін зачытваў урывак з паслання, дзе ў 1324 годзе ўпершыню згадваецца Мядзел… Каралева Бона Сфорца расказвала, як ёй удалося зачараваць тутэйшыя мясціны ад змей…**

Гэтак, тэатралізаваным прадстаўленнем "З глыбіні стагоддзяў", у Мядзеле 20 верасня пачынаўся Дзень горада.

У ім гараджан знаёмілі з асноўнымі момантамі гісторыі Мядзела. Скончылі прадстаўленне тым, што запрасілі ахвотных патанцаваць ойру. Гэты даўнейшы танец калісьці быў папулярны і на Мядзельшчыне.

**Свята горада праходзіла ў Мядзеле ўпершыню. Прымеркавалі яго да 690-годдзя з дня першай згадкі ў пісьмовых крыніцах.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На свяце горада юныя мастакі малявалі мядзельскія краявіды і славутасці.

У музеі народнай славы арганізавалі выставу народнага мастака Беларусі **Васіля Шаранговіча**. Тут жа на відэапрэзентацыі паказвалі старыя фотаздымкі горада і яго жыхароў. А ў гарадскім Доме культуры працавала выстава фатаграфіі пастаўчаніна **Андрэя Мацура** "Нябачныя помнікі Вялікай вайны". На чорна-белых здымках – сляды Першай сусветнай, якіх так шмат на Мядзельшчыне.

А дзеці імкнуліся хутчэй у моладзевы сквер: там для іх было багата забаў. Побач уладкаваліся юныя мастакі. Малявалі горад: на карцінах бачныя царква, возера…

### "Во што значыць родная зямля!"

Ля амфітэатра адбылося шэсце працоўных калектываў горада. Яны ж наладзілі выставу на плошчы Леніна.

Са сцэны амфітэатра прызнаваліся ў любові да мядзельскай зямлі вядомыя землякі: народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч і народная артыстка Беларусі **Марыя Захарэвіч**.

– Гэта гонар – быць на такім свяце, – дзялілася яна. – Толькі што ў музеі паглядзелі здымкі тых даўнейшых, але не забытых гадоў. Канешне, што там параўноўваць з сённяшнім горадам, але і тое вельмі дорага. Разумееце, мая мама калісьці ў Паставы за 30 кіламетраў хадзіла пехатой – туды і назад. А Максім Танк пешшу хадзіў пехатой з Вільні у Пількаўшчыну. Расказваў, пісаў у дзённіку, што калі падыходзіў да мядзельскай зямлі, то ішоў аж подбегам, хоць ногі паапухаўшы былі. Во што значыць родная зямля!

На свяце ўшанавалі мядзяльчанак, узнагароджаных ордэнам Маці. Прыгадалі самага старога жыхара горада і юнага – яму ўсяго некалькі дзён, і падарунак павязуць у радзільнае аддзяленне.

У некалькіх месцах мядзельчане і госці маглі напісаць пажаданні гораду. Апроч мноства пажаданняў шчасця і міру, зычылі Мядзелу "самых лепшых жыхароў" і каб "было больш святаў".

Багатая на імпрэзы была бібліятэчная альтанка. Тут і кніжныя фотавыставы, букросінг наладзілі. Наўпрост на двары правялі пасяджэнне клуба "Задушэўная размова". Пенсіянеркі ўспаміналі маладосць, як у той час выглядаў Мядзел.

Багата людзей прыйшло ў цэнтр горада на ўрачыстую рэгістрацыя шлюбу: паназіраць, як **Яўгенія Дэйка** і **Міхаіл Гаранін** даюць абяцанне жыць у каханні і згодзе.

Яшчэ на свяце адбылося адкрыццё Брамы сяброўства. На ёй завязалі стужачкі прадстаўнікі Паставаў, Докшыцаў, Браслава, Савецкага раёна Мінска і Чарнігава.

Скончылася свята феерверкам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МОЛАДЗЬ

# Навучаць рабіць фотаздымкі, і не толькі

**МАЛАДЗЕЧНА. Зрабіць фоталайф на вуліцах горада, навучыцца складаць рэзюмэ, папрацаваць над рытмічнай кампазіцыяй, запусціць ліхтарыкі ў паветра можна будзе на моладзевым форуме "Час жыць!".**

### Праграма моладзевага творчага форуму "Час жыць!" на 25 верасня

**12.00 – 13.15.** У малой зале Палаца культуры пройдзе "круглы стол" "Вяртанне ў рэальнасць". Тэмы для абмеркавання – прафілактыка крызіснага стану ў моладзі і камп'ютарная залежнасць.

**13.30.** У фае Палаца культуры адкрыецца фотасушка "Анёлы побач". На ёй пройдзе выстава-дэманстрацыя фотаработ, перфоманс "Анёлы побач", інтэрактыўная сцэна "Мой Анёл – гэта…", фоталайф "Усмешка ў фокусе".

Падчас фоталайфа каманды ўдзельнікаў будуць рабіць на працягу гадзіны на вуліцах горада і ў грамадскіх месцах сюжэтны фоталайф. Пераможцу чакае прыз.

Пасля выступіць танцавальны флэшмоб "Знайдзі другое крыло".

**14.00 – 15.15.** У малой зале Палаца культуры будзе інтэрактыўная пляцоўка "Навігатар". На ёй пройдзе дыскусія аб плюсах і мінусах інфармацыйных тэхналогій, прэзентацыя моладзевых праектаў.

**15.30 – 17.30.** У харэаграфічнай зале **Кацярына Прохарава**, актрыса тэатра і кіно, кіраўнік студыі ArtJam, правядзе майстар-клас па акцёрскім майстэрстве "Дазволіць сабе БЫЦЬ". Удзельнікі выканаюць практыкаванні, накіраваныя на развыволенне і трэнінг акцёрскага майстэрства.

**15.30 – 17.30.** У банкетнай зале **Наталля Сухая**, мастак-этнатэрапеўт, правядзе арт-медытацыю "Дыялог з сусветам". Удзельнікі пазнаёмяцца з гэтым відам медытацыі праз сумесную творчую працу, калі будуць рабіць ваціднанку. У гэты ж час у аўдыторыі 101 адбудзецца майстар-клас па фатаграфіі **Эланы Лусковай** "Увага, людзі!".

**17.30 – 19.30.** Навучаць складаць рэзюмэ, раскажуць пра тыповыя памылкі пры ўладкаванні на працу на майстар-класе **Дзмітрыя Навіцкага** "Знайдзі СВАЮ працу". Ён пройдзе ў малой зале Палаца культуры.

**17.30 – 18.00.** На майстар-класе **Аляксандра Субычава** "Рытмы жыцця" ўдзельнікі змогуць папрацаваць над сумеснай рытмічнай кампазіцыяй, выканаць танцавальныя элементы з барабанам. Адбудзецца гэта ў малой харэаграфічнай зале.

**18.00 – 19.00.** У канцэртнай зале Палаца культуры народны тэатр "Метамарфозы" пакажа спектакль "Стваральніца цуда".

**20.00 – 21.30.** У амфітэатры пройдзе Life-паці "Час жыць". Госць мерапрыемства – гурт "Дразды".

**21.45.** У амфітэатры пройдзе флэшмоб "Анёлы побач". Падчас яго ўдзельнікі запусцяць кітайскія ліхтарыкі ў неба.

Закрые мерапрыемства танцавальная праграма побач з пляцоўкай амфітэатра. Яна будзе доўжыцца ад 10 да 11 гадзін вечара.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫСТАВЫ

# Працуе выстава Васіля Шаранговіча

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы 20 верасня адкрылася выстава народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча. Ён ураджэнец вёскі Качаны на Мядзельшчыне.**

Называецца выстава "Я з той сасновай мядзельскай мясціны, дзе Нарачы вада сіней, чым неба…". На ёй можна пабачыць 12 графічных прац з фондаў музея. Іх у свой час творца падарыў установе – як кажа, "з нагоды і без нагоды".

Тут ілюстрацыі да паэм Янкі Купалы, з серыі "Памяць вогненных вёсак" і іншых. На адной з прац – від на Нарач.

**– Якая тут самая дарагая для вас праца? –** пытаю ў творцы.

– Літаграфія да верша Янкі Купалы "А хто там ідзе?". У цэнтры – нашы знакамітыя людзі, пачынаючы ад Францішка Скарыны. А яшчэ там шмат тых, хто гнуў свае спіны і змагаўся, каб "людзьмі звацца". Тут і мой тата ёсць, і нават мой аўтапартрэт.

Гэта не адзіная праца на выставе, дзе можна ўбачыць бацькоў Васіля Шаранговіча. Яшчэ ў адной працы – "Вяртанне" – ён увасобіў вобраз сваёй мамы. А "Партызанскі каваль" напісаны з таты. І таму ёсць прычына.

– Мой бацька якраз быў партызанскім кавалём. Пайшоў на вайну ў другі прызыў, дайшоў да Берліна.

Перад кавалём, нібы пад абаронай магутнай бацькавай далоні, стаіць маленькі хлопчык. Зразумела, што гэта – юны Васіль.

Працаваць выстава будзе да канца верасня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-100, 1989 г.в., 1,8 газ-бензін, г/у руля, люк, колер серабрысты металік. Т. МТС (8-029) 7070552.

• Аўдзі-100, бензін, 1800 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• ВАЗ-2106, 2001 г.в., чырвоны, 1600 у.а., торг. Т. (8-029) 1157938.

• ВАЗ-2108, 95 г. Б, бардовы, не гнілы, без праблем, 1100 у.а., торг. Т. (8-029) 3037201, дом. 728843.*

• Гольф-2, 1991 г.в., 1,3; інжэктар, у добрым тэхнічным стане. Тэрмінова! Т. (8-029)1014524.*

• KIA-PIA, 2001г.в., 1500 куб.см, электрычны пакет, кандыцыянер, металік, у выдатным стане. Т.(8-029) 7733702.

• Мерседэс-207, 2,4 Д, дубель-кабіна 5+1, тэнт, 4100 у.а., торг. Т. (8-029) 5759619, (8-029) 6759615.*

• Міцубісі-Спэйс-Вэган, мінівэн, 1998 г.в., 2,0 ТД, бардовы металік, нюансы па кузаве, без перадпродажнай падрыхтоўкі, 5400 у.а., торг. Т.(8-029) 5600458.

• Нісан-Альмера-Ціна 2001 г.в. 2,2 д.Т. (8-029) 1107958,*

• Нісан-Кашкай, 1,5 дці, 2008 г.в. Т. Вэлком (8-029) 6764932.

• Опель-Астра 6, 1999 г.в., 2,2 т.д., 290 тыс. км, зялёны ўнівер, л/д, ц/з, эл/с, эл/з, фаркоп, кандыцыянер. Тэлефанаваць у любы час.Т. МТС (8-029) 7763411.

• Опель Вектра (В), 1,8і, 1999 г.в., універсал, цёмна-сіні, 5800 у.а., торг. Т. МТС (8-029) 8786521.

• Опель-Корса, 1993 г.в., 1,5Д, бардовы, 5 дзвярэй, 2600 у.а., торг, тэрмінова. Т. Вэлком (8-029) 9563951, (8-029) 9563952.

• Опель-Вектра, 1996 г.в., чорны, хэтчбэк, 1,6 Б, мона, 8-клапанны. Нефарбаваны, не біты, кошт 4800 у.а. Т. моб. Вэлком (8-029) 6900531.*

• Опель-Зафіра 1,8 Б , чорны, 2010 г.в., 5850 еўра. Т. Вэлком (8-029) 6560483.*

• Пасат-Б-6, седан, 1,8 Б, серабро, 2010 г.в., 5900 еўра. Т. Вэлком (8-029) 6560483.*

• Пежо-206, 2001 г.в., 1,1 бензін, цёмна-сіні , хэтчбэк, 5200 у.а. Т. (8-029) 1210687, (8-033) 3422838.

• Пежо-605, 2,1 ТД, АКПП. Т.(8-029) 9176755.

• Плімут-Вояджар, 1999 г.в., 2,4 газ-бензін, хэтчбэк, 6100 у.а., Т. МТС (8-029) 7656562.

• Рэно-21, бензін, выдатны стан, 1600 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Рэно-Меган-Сцэнік, 1997 г.в., 1,6і, 4700 у.а., Вілейка. Т. Вэлком (8-029) 2716675.

• Рэно-Сцэнік 2, 2005 г.в., 1,9 ДСІ, п-э пакет, 9350 у.а.Т. (8-029) 6370991.

• Рэно-Сцэнік, 1998 г.в., 1,9 ДТ, 5400 у.а., торг. Т.(8-029) 8706826.*

• Сітраэн-Ксантыя, 1997 г.в., 1,6і, бардовы, ц/з, г/у,эл. пакет, сігналізацыя. Добры стан. Т. (8-033) 6303698.

• Сітраэн-С5, 2005 г.в., 1,6 НДІ, белы, хэтчбэк, 9300 у.а., торг. Т.МТС (8-029) 7041136.*

• УАЗ-3151, 1992 г.в., добры стан, ваенныя масты. Т. (8-029) 2694914.*

• ФВ-Вента, 1996 г.в. 1,9 дызель, эл. люк, дыскі, АВС, ц/з. Т. (8-029) 5716871, (8-0176) 500351.*

• ФВ-Пола, 1999 г.в., 1,6 б, седан. Т. (8-029) 8540938.*

• ФВ-Гольф 2, 1986 г.в., серабро, металік, 1,6 Д, нядорага. Т. Вэлком (8-029) 96282510.*

• ФВ-Джэта,1984 г.в., 1,6 Д, 5 МКПП, добры стан. Т.(8-033) 6010293.

• ФВ-Пасат, Б 4,1993 г.в., 1,8 мона, 3800 у.а. Т. Вэлком (8-029) 1246063.

• ФВ-Пола, 1997 г.в., 1,3 бензін, сіне-зялёны перламутр, не патрабуе ўкладанняў, 3200 у.а., торг. Маладзечна. Т. (8-033) 6025191.

• ФВ-Пола, 2001 г. в., 1,4 бензін, 6900 у.а. Т. (8-029) 9342180, Мядзел.

• ФВ-Транспарцёр Т-4, белы, доўгая база, 2400 куб. см, 449000 км, 7 месцаў, ц.з., сігналізацыя, шторкі, стэрэа сістэма + сабвуфер. Т. (8-029) 6650692.*

• Фіят-Сціла, 2002 г.в.,1,9 gtd, цана 5250 у.а. Т.(8-029) 6058365.

• Фіят-Брава 1,4, 1998 г.в., бардовы. Т. (8-044) 7081227.

• Фіят-Марэа, колер шэры металік, 1999 г.в., 1,6 бензін, 16V, ц/з, ABS і інш., 4000 у.а., Т. Вэлком (8-029) 9293068.

• Фольксваген-Джэта, 1990 г.в, 1,8 бензін, добры стан, 2000 у.а., торг. Вілейка. Т. (8-033) 6849313.

• Форд-Мандэа, 1998 г.в., універсал, 2,0 бензін, 130 к.с., зялёны, добры стан, 3950 у.а. Т.(8-029) 2557799.*

• Форд-Гэлаксі, 2004 г.в., 1,9 ТДІ, 130 к.с, 217000 км, 6МКПП, серабрысты металік, ацяпляльнік салона, абагрэў лабавога шкла, ц.з., сігналізацыя, поўны электрычны пакет, клімат кантроль, заводская таніроўка, паўскураны салон, літыя дыскі. Т. (8-029) 1767247.*

• Форд-Сіера-Люкс, бензін, 1600 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Форд-Транзіт, 2,5Д, грузавы. Т. (8-029) 2863748.*

• Форд-Транзіт, 2001 г.в., аб'ём 2,4 ТД, грузавы. Т. (8-029) 6181186.*

• Форд-Транзіт, мікрааўтобус, грузавы, 1994 г.в., 3000 у.а., торг. Т. (8-029) 2102621.*

• Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3 бензін, 3-дзверны, чырвоны, пераварaны, пафарбаваны, капрамонт рухавіка, без праблем, 1550у.а., торг,Вілейка.*

• Хундай-Акцэнт, 1999 г.в. 1,5 газ-бензін, падагрэў пярэдніх сядзенняў, ц/замок, цёмна-сіні, хэтчбэк, ці абмен. Т. (8-029) 8555279.*

• Хундай-Туксон 2005 г.в. 2,0 CRDI, зялёны металік, у выдатным стане, усё ёсць. Т. (8-029) 7670805.*

• Шаўрале-Авеа, 2010 г.в., 1,2 газ-бензін, 3-дзверны, хэтчбэк, шэры, свежапрыгнаны з Францыі 21 верасня, сэрвісны, 8300 у.а., торг. Тэл. (8-029) 6631595.*

• Прычэп "Зубраня". Т. (8-029) 3361956.

• Скутар HORS054. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Гума зімовая "Брыджстоўн" ліпучка, 2013 г.в., Японія, 215х65х16, прабег 2 тыс., 4 шт., 500 у.а.,Т. МТС (8-029) 5511138.

• Гума зімовая ў камплекце з дыскамі ад Мерседэс на 15. Т. (8-029) 9573379.

• Запчасткі б/у для Мазды, Аўдзі, ФВ у г.Барысаве, дастаўка ў Маладзечна. ІП Вашкевіч С.М., УНП 691492337. Т. Вэлком (8-029) 6690074, МТС (8-029) 8890074.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

• **А/М, ДАРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• **А/М** у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўтамабіль у любым стане, легкавы ці бус. Т. (8-033) 6008152.*

• **АЎТАРАЗБОРКА НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗКІХ** аўто. Вялікі выбар. Гарантыя, на запчасткі. г.Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• **АЎТАРАЗБОРКА: РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭН. ВЯЛІКІ ВЫБАР Б/У ЗАПЧАСТАК, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

• Аўто 1984-2005 г.в. у любым тэхнічным стане, аварыйнае ці на запчасткі. Т. (8-029) 2635648.*

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

## ІНШАЕ

• Іншамарку за 3000 у.а. Т. (8-029) 3856049.*

• Любое аўто, любой маркі і мадэлі, любога года выпуску, з любымі праблемамі, можна на запчасткі. Т. (8-044) 4625799, (8-033) 3825092.*

## ПАСЛУГІ

• Арэнда самазвалаў МАЗ, 20 тон і 10 тон (дастаўка пяску, шчэбеню, асфальту, вываз смецця), франтальнага пагрузчыка ТА-18, поўнапаваротнага экскаватара, (0,85 куб. м), экскаватара-пагрузчыка, гусенічнага экскаватара, увесь комплекс земляных работ. ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі міні-экскаватара, міні-пагрузчыка, колавага экскаватара, трамбовачнікі, усе віды земляных работ. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **РАМОНТ ТУРБІН.** ТАА "Турбацэнтр". УНП 191531213. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• **ЭКСКАВАТАР-**ПАГРУЗЧЫК, **ТРАНШЭІ**, **КАТЛАВАНЫ**, **ПЛАНІРОЎКА**, **ПАГРУЗКА**. ІП Грычанаў Д.Г. Т. (8-029) 5045554*









# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 4-паверх 5-павярховага дома, цэнтр. Т. (8-029) 2564590.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029 )2351729*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н "Зеніт" Т. (8-044) 5833928.

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 69,2 кв.м, невуглавая, два зашклёныя балконы, палепшаная планіроўка, падвал. Т.(8-029) 6336012.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Вялікі Гасцінец,111. Аг. плошча 67 кв. м, 8 паверх Т. (8-029) 1795277, (8-029) 7081438*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, лоджыя 9 м , 62/40/9 кв.м, з рамонтам, ахова, тэлефон, 2 падвалы.Т. (8-029) 6888111.*

• Аб'ект гандлёвы недабудаваны, тэрмінова ў Ашмянах, м-н Заходні. Плошча забудовы 437 кв.м, ёсць уся дакументацыя. ІП Шукеловіч М.М., УНП 590981850, Т. (8-029) 6241317.

• Гараж ГБК "Ізбіна" і недабудаваны дом (75% гатоўнасці), г.Вілейка. Т. (8-029) 5769587.

• Гараж на Лясных у г. Маладзечна. Тэрмінова. Дывановаe пакрыццё на падлогу, карнізы, люстры, прыхожую, спальны гарнітур, сценку, б/у, нядорага. Т. (8-029) 6888111, дом. (8-017) 2562744.

• Гараж у ГК -18 , падвал па перыметры , 9000 у.а. Т. (8-044) 7770407.*

• Гараж у кааператыве 5"Р" (р-н Здземелева). Т. (8-029) 5735608.

• Дача ў Лазаўцы. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Дом , в.Талуць, Вілейскі р-н. Т. (8-029) 7508723.

• Дом жылы з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Нясцёркі Вязынскага с/с. Т. Вэлком (8-029) 1900167.*

• Дом у а.г. Любань Вілейскага раёна, цэнтральнае ацяпленне, будаўнічыя пабудовы. Т. (8-033) 6026288.*

• Дом у в. Маліноўшчына, 14 км ад Маладзечна, 76 кв.м, 16 сотак, 13000 у.а. Т. (8-029) 3469298.*

• Дом у в.Баяры Мядзельскага р-на. Участак 13,5 соткі. У вёсцы газіфікацыя і водазабеспячэнне. Т. Вэлком (8-029) 1900167.*

• Дом у в.Вязавец ( 4 км ад Маладзечна), уч. 0,14 га,святло, калодзеж, газ па вуліцы. Т. (8-029) 8780243, (8-029) 7043581.*

• Дом у Маладзечне – газ, вада, тэлефон, 81 кв.м, агарод, 35000 у.а., добры торг, тэрмінова. Т. МТС 8737765, 7528450.*

• Дом цагляны ў Маладзечне, 1 паверх, 120 кв.м, гараж з ямай, 2 хлявы, летняя кухня, лазня, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне, выгоды ў доме, участак 15 сотак, магчымы абмен, разгледжу любыя варыянты. Т. (8-029) 3535964.*

• Дом, 7 км ад Вілейкі, па вуліцы газ, вада, побач лес, вадаём. Т. (8-029) 7493524.

• Катэдж у Мядзеле, краі нарачанскіх азёр, 170 кв.м, каналізацыя, цэнтр, ацяпленне, два гаражы. Т. МТС (8-029) 8756016.*

• Катэдж у Смаргоні, 2005 года пабудовы, участак 11 сотак, лазня, два гаражы, усе выгоды. Т. (8-033) 3276789.*

## КУПЛЮ

• Жыллё любое ў Маладзечне, прыгарадзе, нядорага. Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Участак зямельны, магчыма з пабудовай побач з вадаёмам. Т. (8-029) 8941874, (8-044) 5322503.

## МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру непрыватызаваную, 72 кв.м.,5 паверх панельнага дома, р-н "Зеніт", на 1-2-пакаёвую прыватызаваную, 2-4 паверх. Т.(8-029) 2635318.*

## ЗДАМ



• 1-2-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін, адзінокая жанчына. Т. 8 (029) 5062372.*

• **КВАТЭРУ НА СУТКІ** ў цэнтры Маладзечна. ІП Ляшковіч С.В. УНП 691881476. Т. (8-029)7059393.*

• Кватэру на суткі, камандзіраваным і студэнтам – скідкі. ІП Шчарбачэвіч Т.І. УНП 691507948. Т. (8-044) 4892548.*

• Гандлёвае памяшканне ў Ашмянах, 25 кв.м і 60 кв.м. ІП Шукеловіч М.М., УНП 590981850. Т. (8-029) 6241317.

## НАЙМУ

• Кватэру. Парадак, аплата своечасовая. Т. (8-044) 4853593.*



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-і паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• **Музыкі на вяселле**, юбілей. Светлавое шоу, тамада. Т. (8-025) 6982962, (8-033) 6658513.*

• Тамада-баяніст, дыскатэка на вяселле, юбілей, навагодні карпаратыў. Сайт: www.toast-master1.narod2.ru УНП АА 9523648. Т. МТС (8-029) 5510526.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. Т. (8-029) 2713567.*

• Мерседэс 208Д, 1,5 т, па горадзе і РБ, грузчыкі, наяўны, безнаяўны разлік. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601. Т. (8-044) 7498972, МТС 7643072.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АБІТУРЫЕНТ**! Матэматыка: падрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звяна. Якасць падрыхтоўкі высокая. Кантрольныя работы: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, тэхнічныя, эканамічныя, гуманітарныя дысцыпліны. ІП Каляснікаў В.Ф. УНП 690418425. Т. МТС (8-029) 5586664, Вэлком (8-029) 6325077.*

• Агароджы з прафнасцілу, 25 у.а. за кв. м, вароты, брамкі, казыркі. zabordlavas.www.by , УНП 691518576, ІП Мельнікаў П.Е. Т. (8-044) 7353986, (8-029) 7623561.*









## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

Филиал **«Электромонтажкомплект»** ОАО «БЭМ» приглашает к участию в **переговорах с процедурой снижения цены заказа по закупке шинопровода** для объекта «Создание нового производства по выпуску конкурентноспособных тканей бизнес и эконом-классов в условиях ОАО «Камволь».
**Цена заказа, применяемая в качестве стартовой, – 500 000 000 руб.**
Документация предоставляется в электронном виде в течение одного рабочего дня с момента направления заявки. Переговоры состоятся **29 сентября в 11-00** по адресу: *г.Минск, пер.Промышленный,14.*
**Критерий для выбора победителя – наименьшая цена.**
Договор будет заключён в течение 3 дней после утверждения протокола о проведении переговоров. Организатор переговоров имеет право на отказ от проведения переговоров в любой срок без возмещения участникам убытков. **Доп. информацию** можно получить по телефону (8-017) **380-00-98**. Контактное лицо Чешко О.В.
УНП 101826038



Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

На ганку ў Равутцы. 6 снежня 1915 года.

● ГІСТОРЫЯ

# Прынарачанская Равутка: гаспадары чароўнай мясціны

*Заканчэнне. Пачатак у №38.*

**ВІЛЕЙКА. Які лёс напаткаў некалі квітнеючую жыццём мясціну і што там адбываецца цяпер, піша адзін з пастаянных аўтараў спецпраекта "РГ" "Куфэрак".**

Паходзіў новы і апошні гаспадар Равуткі са старадаўняга шляхецкага роду Бакшанскіх. Ён карыстаўся гербам "Сякера".

### Госці любілі з парога трапіць у Нарачанку

У 16 стагоддзі за ваенныя заслугі ў вайне з туркамі кароль Ян III Сабескі аддзячыў Бакшанскім маёнткамі Жодзішкі, Тупальшчына і Пілавойці. Бацька Міхала Бакшанскага **Ёзаф** гаспадарыў у спадчынным маёнтку Тупальшчына пад Жодзішкамі.

Пасля яго смерці Тупальшчына перайшла да сына **Уладзіміра Бакшанскага**, які ў міжваенны час 20 стагоддзя арганізаваў у той мясціне лецішча, дзе адпачывалі ад 60 да 90 гасцей з розных куткоў Польшчы.

На прыкладзе старэйшага брата, Міхал Бакшанскі ў сваёй маляўнічай і зацішнай Равутцы наладжвае такі ж самы вясковы адпачынак для гасцей, але ў больш сціплых памерах. Прываблівала сюды гарадскіх наведнікаў не толькі добрае натуральнае харчаванне, прырода з чыстым паветрам, але і магчымасць амаль з сядзібнага парога трапляць у воды Нарачанкі.

### Ратуюць яўрэяў ад нацыстаў

Рызыкуючы ўласным жыццём, у гады Другой сусветнай вайны Бакшанскія ратуюць ад нацысцкага пераследу сям'ю з Лодзі і даюць выгнаннікам на некаторы час прытулак у сваім доме.

Аўтарка ўспамінаў "Уцячы ад Галакосту" **Эмануэла Цунге** з удзячнасцю ўзгадвала стаўленне да іх гаспадароў маёнтка і некалькі старонак кнігі прысвяціла тагачаснаму побыту ў Равутцы. Адлюстравала яна і трагічныя падзеі ў жыцці насельнікаў суседняга Рускага Сяла.

### Равутка засталася без гаспадароў

Пасля вайны лёс выгнаннікаў са свайго роднага кута чакаў і сям'ю Бакшанскіх. Яны пакідаюць свой маёнтак і перазджаюць ў Рабін каля горада Бялагард у Заходнепаморскае ваяводства Польшчы.

Равутку, якая засталася без гаспадароў, як і большасць пакінутых уласнікамі мясцін краю, час не пашкадаваў. Сёння з-за хмызняку не бачна нават камянёў падмурка сядзібы, вакол буяе баршчэўнік і крапіва, крыху пpаглядаецца старая дарога па лесе і палі ад мастка праз Равутку. Хутар Равутка ў 1966 годзе быў ссялены і канчаткова перастаў існаваць на сваім гістарычным месцы.

### Зрабілі месца для памяці

Чарговая старонка кнігі летапісу гэтага кутка Вілейшчыны запісваецца ўжо на супрацьлеглым, левым, беразе Нарачанкі ў аднайменным урочышчы Равутка каля Забfroддзя. У 1970-я гады сюды з гарадскога сталічнага тлуму пераязджаюць **Барыс Барысавіч** і **Валянціна Пятроўна Цітовічы** і ствараюць тут асяродак нацыянальнай культуры і асветы.

Крок за крокам, дзень за днём гэтымі нястомнымі творчымі людзьмі і іх аднадумцамі закладваецца Кветнік памяці, ратуюцца ад поўнага забыцця і ўшаноўваюцца месцы апошняга спачыну ўдзельнікаў Першай сусветнай вайны ў тутэйшых мясцінах, праводзіцца велізарная праца па музеефікацыі ландшафтнай прасторы урочышча.

Галоўным духоўным цэнтрам Музея памяці Першай сусветнай вайны ва ўрочышчы Равутка стала капліца-помнік у гонар Барыса і Глеба. Храм і капліца-званніца, што ўзнеслася побач дзякуючы аўтарам праекта – мастаку Барысу Цітовічу і архітэктару **Анатолю Капцюгу**, былі выкананыя ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства Беларусі і з'яўляюцца непаўторнымі архітэктурнымі набыткамі ўсяго прынарачанскага краю.

Сёння памяць аб ахвярах Першай і Другой сусветных войнаў аб'ядноўвае тут усіх тых, хто наведвае гэту мемарыяльную мясціну. Як адзначыў адзін з добра вядомых ранейшых наведнікаў Забродздзя **Васіль Быкаў**, "пакуль чалавецтва будзе ўсведамляць і памятаць, што яно перажыло ў сярэдзіне 20 стагоддзя, што страціла і чаго дамаглося, – новая вайна немагчыма".

### Адкуль пайшла назва Равуткі

Нельга абмінуць увагай паходжанне самой назвы Равутка. Праўдападобна, што назва паселішча магла ўтварыцца ад аднайменнага гідроніма, бо правы прыток ракі Нарачанкі да сённяшніх дзён захаваў сваю даўнейшую першапачатковую назву. Шумлівы ў час вясенняй паводкі ручай-"равун" атрымаў характэрную назву, а потым назва прытока перайшла на заснаванае тут паселішча. Гідронімы "Рэўт" сустракаюцца ў прытоках рэк Днестр, Сейм, Ака.

Аднак нельга цалкам выключыць і іншае тлумачэнне назвы Равутка. Стараславянская назва звона была "рэвут", што сведчыла пра нізкі тэмбр яго гучання. Беларускі знаўца тапанімікі **В.А. Жучкевіч** у сваіх даследаваннях таксама адзначаў, што "значэнне асновы – звон, званар".

Звон "рэвут" з'яўляецца гербам расійскага горада Рэвутаў, такую ж самую назву мае другі па велічыні звон на Успенскай званніцы Маскоўскага Крамля. Па меркаванні навукоўцаў, у нашым выпадку рака Нарачанка са старажытных часоў з'яўлялася мяжой паміж балтамі і славянамі, пазней паміж адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі падзеламі краю.

Вілейскія вёскі Кардон і Ганута (назва мае балцкае паходжанне і азначае "сцерагчы") на берагах ракі выразна сведчаць пра мяжу тых былых падзелаў. Калі так, то па Нарачанцы ў мінулым магла пралягаць сігнальная лінія храмаў і веж-званіц, якія сваім звонам перадавалі вестку аб набліжэнні небяспекі ці папярэджвалі насельніцтва аб якой-небудзь значнай падзеі. Засманаванне ў даўнейшыя часы ў гэтай стратэгічнай мясціне званіцы з "рэвутам" магло ў далейшым сфарміраваць паселішча з назвай Равутка.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**

**Больш фота глядзіце на сайце**




● **КАЛЯНДАР**

**26 верасня.** 50 гадоў назад (1964) з вёсак Баравыя, Купа, Малая Сырмеж, Наносы, Садоўшчына, Сцепянёва, Урлікі ўтвораны курортны пасёлак Нарач.

***

**385 гадоў** таму (1629) падпісаны мір паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй, якім завяршылася вайна 1600 – 1629 гадоў.

***

**1976 год.** Памерла Леаніла Чарняўская, жонка Максіма Гарэцкага, перакладчыца, пісьменніца, настаўніца.

***

**27 верасня.** Сусветны дзень турызму.

***

**1533 год.** У Румыніі нарадзіўся Стафан Баторы, вялікі князь літоўскі і кароль польскі. Некаторыя легенды, распаўсюджаныя на тэрыторыі сучаснай Беларусі, сцвярджаюць, што Стафан Баторы даваў назвы беларускім паселішчам, у тым ліку вілейскім вёскам Саланое і Мільча.

***

**1937 год.** Расстраляны Уладзіслаў Галубок, пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак.

***

**29 верасня.** 485 гадоў з часу зацвярджэння (1529) Першага Статута Вялікага Княства Літоўскага.

***

**220 гадоў** з дня нараджэння Ігната Ходзькі (сапр. Барэйка,1794 – 1861), беларускага пісьменніка, мемуарыста. Жыў на тэрыторыі цяперашніх Вілейскага, Смаргонскага раёнаў.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Льва Голуба (1904 – 1994), беларускага кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі.

***

**1823 год.** Нарадзіўся Уладзіслаў Сыракомля (сапр. Людвік Кандратовіч), беларускі і польскі паэт-гуманіст, пісьменнік, публіцыст. Памёр у 1862 годзе.

***

**30 верасня.** 100 гадоў з дня нараджэння Данілы Міцкевіча (1914 – 1996), беларускага хіміка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, сына Якуба Коласа.

***

**1892 год.** Нарадзілася Зоська Верас (сапраўднае Людвіка Сівіцкая), пісьменніца, грамадска-культурны дзеяч.

***

**1939 год.** У вёсцы Шашальгішкі (пад Вільняй) памёр Стары Улас (сапраўднае Уладзіслаў Сівы Сівіцкі), паэт. Пахаваны ў вёсцы Сужына, цяпер Літва.

***

**2 кастрычніка.** 195 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Незабітоўскага (1819 – 1849), беларускага і польскага пісьменніка, гісторыка, філосафа.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

СПАЖЫВЕЦ

# Старыя тэлевізары выкідваць пакуль рана

**МАЛАДЗЕЧНА. Да поўнага адключэння эфірнага аналагавага вяшчання ў Беларусі засталося 230 дзён. Маладзечанцы будуць у ліку апошніх, каго гэта закране. Аналагавы сігнал тэлевізары ў горадзе перастануць прымаць 15 чэрвеня 2015 года.**

Якой была эпоха чорна-белага тэлебачання, чаго чакаць ад лічбавага і колькі яно будзе каштаваць?


Фота Анатоля БАЛАША.

**1954 год. Віляйчанін студэнт аддзялення журналістыкі філфака БДУ Анатоль Балаш зрабіў здымак аднакурсніка Барыса Манцэвіча ў інтэрнаце Белдзяржуніверсітэта на вуліцы Бабруйскай у Мінску. Правадны прыёмнік — рэпрадуктар — трапіў у кадр выпадкова. Іх можна было пабачыць амаль у кожным доме, кватэры, інтэрнацкім пакоі.**

### Частка 1-я. Настальгічная. Як гэта было?

Многія расказваюць, што ля аднаго тэлевізара збіраліся ўсёй вёскай. Добра, што канал быў адзін, таму спрэчак, што глядзець, не ўзнікала.

Жыхарка вёскі Пяршаі Валожынскага раёна **Галіна Бобрык** прыгадала, як тэлевізар выключалі праз кожныя 20 хвілін, бо ён перагравайся. А калі глядзелі фігурнае катанне, то каментатары расказвалі, якога колеру сукенка ў фігурысткі. Тэлебачанне ж было чорна-белае паўсюль.

– Не паўсюль! – не пагаджаецца гаспадар антыкварнай крамы з Маладзечна **Юры**. – У 1959 годзе ў Мінску выпусцілі тэлевізійны камбайн, які паказваў выявы ў колеры.

Справа ў тым, што ў камплекце да тэлевізара ішла каляровая плёнка, якую можна было прыкладаць на экран, і яна дадавала колер чорна-белай выяве.

Акрамя таго, у гэтым тэлевізары быў пульт, прайгравальнік пласцінак і радыёпрыёмнік.

### Частка 2-я. Тлумачальная. Што такое лічбавае тэлебачанне?

Пераход на лічбавае тэлебачанне даўно быў абумоўлены элементарным тэхнічным прагрэсам.

Якасць выявы пры лічбавым тэлебачанні лепшая, чым пры аналагавым. Яно значна зніжае энергаспажыванне абсталявання, якое перадае сігнал.

Дырэктар маладзечанскай тэлевізійнай вяшчальнай сеткі **Валянцін Давідовіч** патлумачыў, што лічбавае тэлебачанне яшчэ не значыць, што давядзецца выкідваць старыя тэлевізары.

– У горадзе, – кажа Валянцін Паўлавіч, – кабельныя сеткі будуць трансфармаваць лічбавы сігнал у аналагавы.

Гэта значыць, што старыя тэлевізары як працавалі, так і будуць працаваць.

Той, хто не мае дагавора на кабельныя сеткі, вымушаны будзе набыць прыстаўкі ці тэлевізары, якія падтрымліваюць DVBT-фармат.

### Частка 3-я. Практычная. Колькі гэта будзе каштаваць?

Сёння прыстаўку DVBT-фармату можна набыць у крамах, дзе прадаюць адпаведную тэхніку. Сярэдняя цана на цюнер складае прыкладна 470 тысяч. На яго, на жаль, растэрміноўка не дзейнічае. Толькі калі набываць больш дарагую прыстаўку, можна атрымаць растэрміноўку на два месяцы.

**Наталля ТУР.**

**А як жа правадное радыё?**

Ад 1 кастрычніка ў Маладзечне перастане працаваць правадное радыё.

Каб не пазбаўляць прыхільнікаў радыё іх звычкі пачынаць дзень са свежых навін, "Белтэлекам" і крамы прапануюць слухачам набыць радыёпрыёмнікі.

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як захаваць добрыя стасункі з бацькамі

**Калі мы вырастаем, надыходзіць момант, што ўжо нам трэба клапаціцца пра бацькоў, удзяляць ім больш увагі, акружаць любоўю. Каб стасункі між вамі былі цёплыя, варта ўлічваць псіхалагічныя асаблівасці сталага ўзросту.**


Фота забяспечана Вольгай МАЛАШКАЙ.

**Псіхолаг Вольга Малашка.**

У сталасці адбываецца шмат змяненняў у інтэлектуальнай і эмацыйнай сферах: звужаецца кола захапленняў, складаней вучыцца новаму, боязь адзіноты, бездапаможнасці, хваробаў. Частыя думкі пра смерць, пра сэнс жыцця. Няўпэўненасць у заўтрашнім дні, праз гэта праяўляюць скупасць, дробязнасць. Становіцца менш людзей, з якімі падтрымліваюць сувязь.

**Міжнародны дзень сталага чалавека адзначаюць 1 кастрычніка ад 1991 года.**

Не забывайце, што вашы бацькі – самыя родныя і блізкія. А захаваць добрыя стасункі дапамогуць простыя парады:

1. Падумайце пра прыемныя **сямейныя традыцыі**. Гэта можа быць сямейны абед па нядзелях. Калі жывяце далёка адзін ад аднаго, падумайце пра размовы праз скайп.

2. **Дазваляйце бацькам быць клапатлівымі**. Ім неабходна адчуваць, што яны патрэбныя і карысныя, яны вельмі баяцца згубіць значнасць. Пазбаўляйце цяжкай работы, але пакідайце прыемныя клопаты. Яны могуць праверыць урокі ва ўнукаў, гатаваць вячэру ці займацца садам і агародам.

3. **Будзьце ўдзячныя**. Не шкадуйце падзякі за тое, у чым яны вам дапамагаюць.

4. **Прасіце парады**. Сталым людзям асабліва важна, каб іх меркаванне ўлічвалі. Таму прасіце парады у тых пытаннях, у якіх яны кампетэнтныя. Так вы паказваеце каштоўнасць іх ведаў і досведу.

5. Прыдумайце **занятак для бацькоў**. Часта ў сталым узросце праяўляюцца схаваныя таленты і жаданні. Напрыклад, ахвота падарожнічаць ці маляваць, альбо разгадваць красворды.

6. Знаходзьце **новыя захапленні**. Хадзіце разам на выставы, канцэрты. Гэта яшчэ адзін шанец правесці час разам і падзяліцца ўражаннямі.

7. **Будзьце ўважлівыя** да сваіх сталых бацькоў. Паспявайце знайсці час і цярпенне, каб выслухаць іх. Не адказвайце крытыкай на крытыку, крыўдай на крыўду. Абдыміце, вазьміце за руку – гэта зробіць іх шчаслівымі.

8. **Паважайце лад жыцця вашых бацькоў**. Яны маюць права на свае звычкі, нават калі падаюцца неразумнымі. Старая тэхніка для іх больш зручная, а старыя рэчы могуць быць вельмі дарагія сэрцу.

9. **Не перабольшвайце з клапатлівасцю**. Не імкніцеся пазбавіць іх ад усіх клопатаў. Навязлівая дапамога можа выклікаць адчуванне, што яны яшчэ больш старэйшыя, чым ёсць. А старэць яны не хочуць.

**По псіхалагічную дапамогу можна звярнуцца па тэлефоне (80176) 74-66-20 ці на адрас: Маладзечна, вуліца Таўлая, 4.**

Кансультацыі бясплатныя і ананімныя.

**Вольга МАЛАШКА, псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага забеспячэння насельніцтва.**





## Прытча пра бацькоў

Адзін чалавек звярнуўся да мудраца:

– Скажы, што мне рабіць з маімі бацькамі? Ад старасці іх розум зусім слабы – яны то плачуць, то балабоняць. Можа, адправіць іх у прытулак?

Мудры чалавек адказаў:

– Калі ты ляжаў у калысцы, то таксама невялікі розум меў – дзень і ноч не даваў адпачынку бацькам плачам. Колькі пяшчоты і цярпення яны аддалі табе, пакуль рос. І чым ты хочаш адплаціць?

● ДА ДНЯ СТАЛЫХ ЛЮДЗЕЙ

# Той, хто малады душой, кожную нядзелю танцуе ў парку

**МАЛАДЗЕЧНА. Што аб'ядноўвае бойкіх бабулек, прыгажунь бальзакаўскага ўзросту, пасівелых рыцараў, а таксама пары, якія даўно адсвяткавалі жамчужнае, рубінавае ці залатое вяселлі? Як не дзіўна, але гэта вечары танцаў "Для тых, хто малады душой", якія ладзяцца ў гарадскім парку кожную нядзелю.**

Калі выпадкова вам пашчасціць трапіць у парк нядзельным вечарам, вы хочаце таго ці не, а трапіце ў чаруючую атмасферу, якая пануе тут.

Па-першае, гэта музыка з бабулінай пласцінкі: танга, савецкая эстрада 60-х гадоў, факстроты і вальсы.

Па-другое, тут не сустрэнеш танцораў у штодзённым адзенні – толькі лепшыя касцюмы ў мужчын, сукенкі, пацеркі і капялюшыкі – у жанчын. А яшчэ тут няма злых, незадаволеных жыццём, стомленых людзей. Нават у тых, хто проста праходзіць міма, у вачах загараецца агеньчык цеплыні і пяшчоты ад таго, што сталыя людзі гуляюць у парку, трымаючы адзін аднаго за руку.

Тыя, хто не танцуе, сядзяць тут побач на лаўках. З адной такой парай, з **Іванам і Марыяй Ярашамі**, і спрабую загаварыць:

**– Вы прыходзіце сюды патанцаваць?**

– Ой, дзетачка, нам абаім ужо дзявяты дзясятак пайшоў, – пачынае размову Іван Яраш. – Якія танцы? Вось прыходзім падыхаць свежым паветрам ды музыку паслухаць. Дома ж не будзеш увесь дзень сядзець.

Іван Мікалаевіч дома шмат чытае. Сваю бібліятэку збірае ўжо 60 гадоў. Кнігі ў дамашняй бібліятэцы, як кажа сам гаспадар, больш нагадваюць канспекты. Усе палі ў іх спісаныя пазнакамі. А яшчэ Іван Мікалаевіч кожную сераду ў кіёску набывае сваю любімую газету. І вельмі абураецца, калі ў дзень выхаду новага нумара на паліцах застаюцца старыя газеты.

– Чаму людзі не купляюць газеты? Няўжо нікому нецікава ведаць праўду пра тое, што ў свеце робіцца?

### Танцы лечаць ад хваробы

Дзве сяброўкі-суседкі **Марыя Васільеўна і Лідзія Раманаўна** таксама не маюць ахвоты кідацца ў скокі, але паразважаць пра жыццё і падзяліцца сваімі назіраннямі гатовыя заўсёды.

– Не любім мы сядзець пад пад'ездам і збіраць плёткі! – шчыра прызнаецца Марыя Васільеўна. – Вось тут іншая справа. І на людзей паглядзець, і музыку паслухаць. Радуемся, што горад наш такім прыгожым стаў.

Ва ўспамінах маладосці Марыі Васільеўны, з забаў, што былі ў парку, яна памятае толькі "Кола агляду". Каб трапіць на яго, трэба было адстаяць у чарзе добрую гадзіну.

– Мы з сяброўкай (ківае ў бок Лідзіі Раманаўны) жанчыны адзінокія, таму часта тут бываем, увогуле стараемся на ўсе канцэрты хадзіць.

А Лідзія Раманаўна праз газету папрасіла арганізатараў такіх вечароў падбіраць музыку пад іх узрост.

– Ды не можам мы гэты жывы метал слухаць! Нам народнай музыкі хочацца! Той, якая і ад хвароб лечыць.

**Білет на вечарыну "Для тых, хто малады душой" каштуе 10 тысяч рублёў. Пачатак у 17:00.**

Што музыка лечыць ад хвароб, гэта, як аказалася, было сказана зусім не для чырвонага слоўца. Сяброўкі прыгадалі гісторыю аб тым, што ў парк кожную нядзелю сын прыводзіў свайго бацьку. Бацька, відаць, толькі пасля цяжкай хваробы. Ледзьве перастаўляў ногі, памаленьку хадзіў нават з палачкай. Праз некаторы час жанчыны заўважылі, што гэты пажылы мужчына стаў у парк прыходзіць самастойна.

– І ведаеце што, – кажа Марыя Васільеўна, – на мінулым тыдні ён нават і танцаваць пайшоў!

### Дана і Эмануэле – гісторыя кахання і любові да танцаў

Назіраючы за танцуючымі, заўважаю, што адна пара рухаецца быццам на конкурсе танцаў. Гучала папулярная папсовая мелодыя, а пара танцавала ці то самба, ці ча-ча-ча. Хто гэта, пытаюся ў дзяўчыны, што правярае білеты.

– О, гэта цудоўныя людзі! Паглядзіце, яны і выглядаюць быццам чужаземцы! Бачыце, як у іх гараць вочы і як яны шчыра ўсміхаюцца! Кожную нядзелю прыязджаюць з Вілейкі, каб патанцаваць. Дарэчы, мужчына-амерыканец.

Пазнаёміўшыся з гэтай парай танцораў, хачу сказаць:

– Ніякі мужчына не амерыканец! Яго завуць Эмануэле, і прыехаў ён у Вілейку да любімай жанчыны з Італіі.

Пазнаёміліся Дана і Эмануэле ў Італіі, куды паехала яна працаваць. Неўзабаве вярнуліся на яе радзіму разам. Дана і Эмануэле актыўныя ўдзельнікі клуба "Ветэран", дзе без іх танцаў не адбываецца ніводны канцэрт.

– Мы вельмі хацелі адкрыць у Вілейцы сваю школу танцаў. Бясплатную, канешне ж. Проста хацелася навучыць людзей танцаваць. Хадзілі, прасілі, тлумачылі – ні ў якую. Не разумеюць чыноўнікі, нашто нам гэта трэба! – прызнаецца Дана. – А потым такую прапанову атрымалі з Маладзечна. Але як будзеш ездзіць на заняткі, не маючы ўласнага транспарту?

Таму пакуль Дана і Эмануэле танцуюць для сябе і для тых, хто, гледзячы на іх, думае: " Вось гэта здарова! Трэба таксама навучыцца так танцаваць! Трэба таксама навучыцца так усміхацца і радавацца кожнаму дню, які правялі, трымаючы за руку каханага чалавека!"



Сустрэчы "танцоры" чакаюць цэлы тыдзень



У прадчуванні новай сустрэчы.



Гучыць танга.



Білеты набытыя – цяпер на танцы.

Фота Наталлі ТУР.

## "Нашы танцоры снегу не баяцца"

**МАЛАДЗЕЧНА. Начальнік парку Перамогі ў Маладзечне Аляксандр Фалей да сваіх наведнікаў ставіцца з асаблівым пачуццём. І вельмі шкадуе, што да вясны з імі прыйдзецца развітацца.**

Справа ў тым, што ў парку няма памяшкання, куды б маглі прыходзіць людзі ў халады.

**Сезон у парку заканчваецца 1 кастрычніка.**

– Мы і так падаўжаем сезон наколькі гэта магчыма. Вось быў год, – успамінае Аляксандр Фалей, – калі на вуліцы ўжо зусім было холадна. Ішоў мокры снег. Мы і не думалі рабіць танцы, але ў парк прыйшло чалавек 10-15. Мусілі адкрываць і ўключаць музыку.

Ды-джэям, што ставяць музыку, таксама бывае цяжка дагадзіць усім наведнікам. У парк прыходзяць танцаваць людзі, якім ад 40 да 80 гадоў. Нехта просіць больш сучасную музыку, нехта музыку 50-х гадоў. А яшчэ сюды ходзяць пары, які танцуюць толькі вальс, кракавяк, танга, падэспань. У плэйлісце мусіць быць і такая музыка.

На маё пытанне, часцей ходзяць сямейныя пары ці знаёмяцца тут, Аляксандр Фалей адказаў, што пераважна прыходзяць адпачыць ад сваіх другіх палавінак. Таму мужчына і жанчына, што танцуюць павольны танец або ціхенька размаўляюць у баку, хутчэй за ўсё, выпадковыя знаёмыя, а не муж і жонка.

– А мужчын у нас не хапае, – бядуе Аляксандр Фалей, таму з наступнага сезона ўвaход мужчынам будзе са скідкай.

Танцавальная пляцоўка для тых, хто ходзіць сюды кожны выхадны – гэта настальгія па маладосці. І тое, што яна павінна існаваць і працаваць круглы год, гаворыць вось такі факт. Летам шматлікія людзі пенсійнага ўзросту бавяць час на лецішчы, але ёсць адзін дзень у тыдзень, калі пенсіянеры забываюцца пра свае цяпліцы і грады і прыязджаюць у горад, каб зноў запрасіць на танец вось тую прыгожую жанчыну ў бірузовым шаліку.



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com



Фота забяспечана Ганнай ШЫМАНСКАЙ.

У велапаход сёлета выбраліся 11 чалавек. На фотаздымку злева направа: Рыгор Сташкевіч, Валянціна Зенава, Ганна Зенава, Сяргей Бялкоў, Антаніна Аляксандрава, Настасся Завадская, Ганна Шыманская, Мацвей Самсановіч, Анжэла Сташкевіч, Юры Самсановіч. Фатаграфуе 11-ы ўдзельнік паходу – Яўген Трывашкевіч.

27 ВЕРАСНЯ – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ТУРЫЗМУ

# Велапаход па Віцебшчыне

## Чаму турысты верацьмясцовым жыхарам, а не картографам

**МАЛАДЗЕЧНА. Удзельнікі турыстычнага клуба "Пілігрым" у канцы жніўня ўзялі ўдзел у дзевяцідзённым велапаходзе. Сваімі ўражаннямі ад паходу дзеліцца кіраўнік клуба і кіраўнік групы Сяргей Бялкоў.**

Маршрут адлегласцю амаль 500 кіламетраў пралягаў праз шэсць пунктаў: Ілью, Бягомль, Лепель, Бешанковічы, Віцебск і Полацк. Сёлета ў паходзе ўдзельнічалі 11 чалавек, самаму малодшаму з якіх, **Мацвею Самсановічу**, усяго 10 гадоў.

### Пра куфар, які падарожнічаў у Амерыку

Першы прыпынак і начлег быў у Ільянскай школе. Велападарожнікам пашчасціла не толькі пераначаваць пад дахам, але і папрысутнічаць на экскурсіі, якую дырэктар школы **Ігар Юшко** правёў спецыяльна для гасцей з Маладзечна.

У Ільянскай школе працуюць два музеі, літаратурна-краязнаўчы і гістарычна-краязнаўчы. Абодва маюць статус народных, а значыць, калекцыя экспанатаў насамрэч вялікая і заслугоўвае ўвагі.

– Больш за ўсё мяне ўразіў куфар XIX стагоддзя, – дзеліцца ўражаннямі Сяргей Бялкоў. – Ён такі вялікі і цяжкі, што калі мне сказалі, што яго браў з сабой мясцовы падарожнік у якасці багажу ў Амерыку, я не паверыў.

А малодшым удзельнікам падарожжа запомніўся вучнёўскі дзённік пачатку XX стагоддзя, у якім была напісаная заўвага: "Не лётай па вёсцы, а вучы ўрокі".

### Самае чыстае ў свеце возера – Выдрыца

Акрамя музеяў, у якія завіталі падарожнікі па дарозе, незабыўнае ўражанне пакінула і прыродная прыгажосць.

**9-дзённая паездка абышлася яго ўдзельнікам прыкладна ў 600 тысяч рублёў.**

Адно з такіх уражанняў пакінула возера Выдрыца, што на Лепельшчыне. Як сцвярджае Сяргей Бялкоў, такога празрыстага і чыстага возера няма нават на Мальдзівах.

А ў самім Віцебску здзівіла Дзвіна. Яна за гэта лета высахла настолькі, што па ёй перастаў хадзіць водны транспарт.

### Без дробнага рамонту ў дарозе не абыходзіцца

Усе велападарожнікі павінны ведаць пра тое, што ў дарозе можа здарыцца ўсякае. Таму ў заплечніках вязуць з сабой дадатковыя дэталі да ровараў. Абавязкова ў групе падарожнікаў ёсць майстар. У сёлетнім велапаходзе ім быў **Юры Самсановіч.** Напрыклад, прабітую шыну ён можа замяніць за 15-20 хвілін.

Бывала ў падарожнікаў і такое, што па дарозе адвальваліся педалі. І тады ўся група заставалася на цэлыя суткі на прывале чакаць машыну з горада, у якой везлі новыя педалі. Але гэтыя абставіны, як і дрэннае надвор'е, і стомленасць, яшчэ ні разу не прымусілі падарожнікаў завярнуць свой ровар назад.

– Хаця, – успомніў Сяргей Бялкоў, – быў у мяне адзін выпадак у пешым паходзе, калі дарослы мужчына спужаўся і, спаслаўшыся на тое, што ў яго назапасілася шмат спраў у горадзе, збег з паходу.

У паходах, як у сапраўднай краіне, ёсць і свае прэзідэнты, і свае міністры. У велапаходзе клуба "Пілігрым" міністрам ахоўы здароўя прызначылі **Антаніну Аляксандраву.** Ёй у падарожжы давялося ратаваць сваіх "падначаленых" ад кляшча. А міністр харчавання **Анжэла Сташкевіч** забяспечвала "свой народ" трохразовым каларыйным харчаваннем.

Вось такое велападарожжа адбылося ў жніўні. І пакуль турыстаў чакаюць начлег пад зорным небам, песні пад гітару і бонус у выглядзе лазні на беразе ракі, падарожжа не скончыцца...

**Наталля ТУР.**

### Парады ад турыста з 40-гадовым стажам Сяргея Бялкова

1. Заўсёды кантактуйце з мясцовым насельніцтвам. Толькі яно ведае, што самае цікавае і незвычайнае знаходзіцца побач.

2. У паходзе дзейнічае прынцып "раўняйцеся на самага павольнага ўдзельніка", таму не бойцеся застацца ў хвасце групы.

3. Не верце картографам. Амаль у кожным падарожжы бывае выпадак, калі на карце намаляваная добраўпарадкаваная асфальтаваная дарога, а насамрэч на "ёй" расце бульба ці кукуруза.

4. Не бойцеся падняцца з канапы і рушыць у дарогу. Гэта, напэўна, самая асноўная парада.

НАВІНЫ

### Павіншавалі галкіпера з сотым матчам

**СМАРГОНЬ.** Група заўзятараў "Смаргоні" павіншавала **Радзівона Жука**, які правёў соты матч у складзе футбольнага клуба.

Пасля трэніроўкі 16 верасня хлопцы ўручылі галкіперу памятны падарунак, паведаміў прэс-аташэ футбольнага клуба "Смаргонь" **Уладзімір Амбрасевіч**.

### "Маладзечна-ДЮСШ-4" лідарства не саступае

**МАЛАДЗЕЧНА.** "Маладзечна-ДЮСШ-4" 21 верасня правяла важны матч у барацьбе за чэмпіёнства ў вобласці. Дома сустракалася з камандай, якая ішла трэцяй і адставала толькі на ачко, – ФК "Старыя Дарогі".

Вынік – перамога у багатым на галы матчы 4:3. У маладзечанцаў вызначыліся **Майсяёнак, Татун, Чабрыцкі, Галюк**.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" па-ранейшаму займае першае месца. Мае на рахунку 18 ачкоў. Столькі ж мае "Жодзіна-2007".

### У першай стыкавой гульні "Вілія" згуляла ўнічыю

**ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН.** У чэмпіянаце вобласці пачаліся стыкавыя гульні за 9-20 месцы.

У Вілейцы 21 верасня сустракаліся "Вілія" і "Лівадзія-Юні".

– Гульня была роўнай, але ўсё ж больш галявых пагроз мелі госці, – расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

Першы тайм завяршыўся з лікам 0:0. У другім віляйчане прапусцілі гол у свае вароты. Не рэалізавалі пенальці. Але за некалькі хвілін усё ж здолелі зраўняць лік. Вызначыўся **Валеры Губіч**.

Хто ж з дзвюх каманд зойме 11-е месца, вызначыцца ў матчы ў адказ. Пройдзе ён 28 верасня.

"Валожыну-2010" залічанае тэхнічнае паражэнне 0:3 у матчы з "Нясвіжам".

### Заваявалі медалі на байдарках і лыжаролерах

**МЯДЗЕЛ.** У Мазыры ад 11 да 13 верасня праходзілі адкрытыя рэспубліканскія спаборніцтвы па веславанні на байдарках і каноэ на прызы **Леаніда Дзеравянкі**.

Сярод прадстаўнікоў Мядзельскай СДЮШАР найлепш выступілі **Антон Смолка** і **Ілля Дземяшкевіч**, паведаміла метадыст установы **Наталля Баран**.

На іх рахунку – першае і трэцяе месцы на розных дыстанцыях на байдарцы-двойцы. Да таго ж Антон Смолка яшчэ адну бронзу ўзяў на байдарцы-адзіночцы на дыстанцыі 200 метраў.

А вось ў Слоніме мядзельскім веслярам трапіць у прызёры не ўдалося. Там ад 18 да 20 верасня праходзілі адкрытыя рэспубліканскія спаборніцтвы памяці **Уладзіміра Раманоўскага**.

На Лагойшчыне 11-12 верасня прайшло адкрытае першынство Мінскай вобласці па бегу на лыжаролерах і кросе. Усяго было больш за сотню юных спартсменаў. Ад Мядзельскай СДЮШАР удзельнічалі 9 чалавек.

Адзін дзень спаборнічалі на лыжаролерах. Тут былі другімі ў сваіх узроставых групах **Анастасія Хацяновіч** і **Вадзім Садоўскі**. У другі дзень высвятлялі лепшых у кросе. Сярод сваіх равеснікаў **Наталля Якаўлева** была першай.

### "Першы Беларускі" не губляе ачкі

**ВІЛЕЙКА.** У чэмпіянаце Вілейскага раёна 20 верасня сустрэліся "Першы Беларускі" і "Шылавічы". Лідары чэмпіянату – "Першы Беларускі" – былі мацнейшыя 4:2.

"Чырлёны" - "Вязынь" – 3:0.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У Маладзечне адбыўся турнір па міні-футболе

**МАЛАДЗЕЧНА.** Восьмы турнір па міні-футболе, прысвечаны памяці воіна-інтэрнацыяналіста **Мікалая Палухі**, праходзіў у Маладзечне ад 20 жніўня да 17 верасня.

У турніры ўзялі ўдзел 12 камандаў з Маладзечна і Маладзечанскага раёна. Па выніках спаборніцтваў пераможцам турніру стала аматарская спартыўная каманда "Іва" . Другое месца – у каманды завода ЖБК. Бронзу турніру заваявалі гульцы з каманды "Маладзечнамэбля".

Акрамя прызавых месцаў, назвалі лепшых гульцоў. Так, гульцом з досведам стаў **Аляксандр Залатухін** (АСК "Іва"), лепшы гулец – **Павел Ляпета** (АСК "Іва"), лепшы варатар – **Аляксандр Сафонаў** (завод ЖБК), лепшы асістэнт – **Аляксандр Працкевіч** (АСК " Іва"), лепшы бамбардзір – **Дзяніс Ціткоў** ("Маладзечнамэбля"). На рахунку Дзяніса 13 забітых галоў.

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Будаўнічы холдынг "Забудова": стаяць тры заводы з чатырох

Тое, што тут напісана, вееельмі далёка ад рэальнасці! Хто працуе, ведае рэальную сітуацыю, і яна значна горшая. ***Я.***

Сумна. Аднак давайце адкінем эмоцыі (хаця, разумею, работнікам "Забудовы" зрабіць гэта цяжка) і паглядзім на факты. Так, запазычанасць па крэдытах у прадпрыемства вялікая. Але яна больш чым напалову пакрываецца запазычанасцю іншых прадпрыемстваў-заказчыкаў перад "Забудовай". Магчыма, варта паспрабаваць зрабіць нейкія пераразлікі, ці як гэта робіцца... Я не вялікі эканаміст, але памятаю, як перад нашым прадпрыемствам была запазычанасць, напрыклад, у птушкафабрыкі. Таксама ў той час нам затрымлівалі заробак. Тады кіраўніцтва прапанавала нам частку заробку ўзяць прадукцыяй птушкафабрыкі. Не ведаю, як яны праводзілі гэта па фінансавых дакументах, а мы ўсім аддзелам набралі і курэй, і яек, і гатовай прадукцыі. А адна бабуля-пенсіянерка нават жывых курачак узяла сабе на дачу. І была задаволеная. Казала, што ёй яны абышліся танней, чым з кірмашу. ***Алеська.***

Не ўсё кату Масленіца – заробак сярэдні 5 мільёнаў – сапраўды адданы людзі. Калі разумеюць сезонныя праблемы, то павінны ўвайсці ў сітуацыю. За такія грошы можна і патрываць. Мусіць зажырэлі. А грошы цалей будуць. ***Сяржук Гайна.***

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Афінскія вечары"** (сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін

30 верасня – у 19.00

Тэатр мае права на замену спектаклю.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*

Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **76-17-32** (галоўны адміністратар), **75-29-16** (намеснік дырэктара).

E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" пакажа ў кастрычніку

**АДКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА**

**"Цалёвачка"** (музычная казка), Ю.Шчуцкі

5 кастрычніка – у 12:00

**"Шматочкі па закуточках"** (жыццёвая гісторыя), Р.Осцер

12 кастрычніка – у 12:00

**"Васіліса прыгажуня"** (чарадзейная казка), К.Чарняк

19 кастрычніка – у 12:00

**"Чырвоная шапачка"** (добрая казка), Я.Шварц

26 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 3 | 4 | 9 | | | 8 | |
| | 8 | | | | | 9 | | |
| | 6 | | | | 3 | 5 | | |
| | | 5 | 1 | | | | 9 | 7 |
| | | | 9 | | 4 | | | |
| 1 | 9 | | | | 8 | 4 | | |
| | | 6 | 8 | | | | 3 | |
| | | 4 | | | | | 5 | |
| | 5 | | | 4 | 6 | 7 | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## КОНКУРСЫ

# Выйграй білет на канцэрт "Без білета"

**ВІЛЕЙКА. Самыя творчыя аматары гурта могуць трапіць на імпрэзу бясплатна.**

Для гэтага дастаткова напісаць гісторыю, звязаную з любой песняй "Без білета", і даслаць яе на электронную пошту .

Пераможцу чакае запрашальнік на канцэрт. Яшчэ двое ўдзельнікаў атрымаюць постэры з аўтографамі і фірменную налепку "Я катаюся з "БЕЗ БІЛЕТА".

Папулярны індзі-калектыў "Без білета", што выконвае запальваючы смарт-поп, прыязджае ў Вілейку 7 кастрычніка. Спевакі прывязуць новы альбом "Мора".

**Гурт "Без білета" выступіць у Вілейскім Палацы культуры 7 кастрычніка, пачатак а 18 гадзіне.**

Білет каштуе 80 тысяч рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**




**Афіша да выступлення гурта "Без білета" ў Вілейцы.**

## РЭПЕРТУАРЫ



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Крымінальны трылер **"Вялікі ўраўняльнік"** (ЗША, 2014, для паказу гледачам з 16 гадоў)
2 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Жахі **"Праклицце Анабэль"** (ЗША, 2014, для паказу гледачам з 18 гадоў)
2 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастычны трылер **"Бягучы ў лабірынце"** (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 гадоў)
26 верасня – у 22:00
27, 28 верасня – у 15:30, 22:00
29 верасня – у 18:30
30 верасня – у 21:00
1 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 45 000-50 000 рублёў

Камедыя **"Карпаратыў"** (Расія, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 18 гадоў)
26 верасня – у 18:00
27, 28 верасня – у 20:00
29 верасня – у 21:00
1 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 45 000-50 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды **"7-ы гном"** 3D (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 верасня – у 20:00
27, 28 верасня – у 18:00
30 верасня – у 19:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыйная камедыя **"Самалёты: Агонь і вада"**, 3D (ЗША, Францыя, 2014)
27 верасня – у 11:30, 13:30
28 верасня – у 13:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя **"Таямніца чатырох прынцэс"** (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
30 верасня – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Камедыя **"Самотны па кантракце"** (Украіна, 2014)
26 верасня – у 21:30
27 верасня – у 19:30
28 верасня – у 21:30
1 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Окулус"** (ЗША, 2013)
26 верасня – у 19:30
29 верасня - 1 кастрычніка – у 21:30
2 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды **"Неверагоднае перамяшчэнне"** (Беларусьфільм, 2014)
27, 28 верасня – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Драма, спорт **"Чыстая перамога"** (Расія, 2012, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні дарослых ці педагога)
26 верасня – у 17:30
27 верасня – у 21:30
28 верасня – у19:30
30 верасня – у 19:30
2 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

Фэнтэзі/камедыя **"Сямейка вампіраў"** (Германія, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 верасня – у 18:00
28 верасня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма/баявік **"Анёл-ахоўнік"** (Германія, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 гадоў)
26 верасня – у 21:00
27 верасня – у 18:00
Цана білета: 40 000 рублёў

Камедыя **"Адзінокі па кантракце"** (Украіна, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27 верасня – у 21:00
28 верасня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Мая мама – самалёт"** (Расія)
27 верасня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прыгоды **"Неверагоднае перасоўванне"** (Беларусь)
28 верасня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя **"Танцуй адсюль"** (Вялікабрытанія, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1, 2 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік **"Тры дні на забойства"** (ЗША, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1, 2 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ГАРАСКОП (26 ВЕРАСНЯ- 2 КАСТРЫЧНІКА)

**Авен.** Цяпер вам не трэба ставіць ніякіх грандыёзных задач, не трэба нічога даказваць – ні сабе, ні іншым. Вазьміце часовую перадышку, расслабцеся і адпачніце.

**Цялец.** У адзінокіх ёсць вялікая верагоднасць закруціць любоўны раман, які мае шансы на шчаслівую будучыню.

**Блізняты.** Буру эмоцый прынясуць спрэчкі з блізкімі. Але не хвалюйцеся: непрыемныя эмоцыі, як гэта ні парадаксальна, толькі ўмацуюць вашы адносіны.

**Рак.** Энтузіязм, творчыя здольнасці дапамогуць вырашыць любыя пытанні. Для вас наступіў перыяд поўнага бязмежнага шчасця. Не дазваляйце блізкім абмяжоўваць вашу свабоду.

**Леў.** Адзінокія настолькі прываблівыя, што без цяжкасці змогуць дабіцца інтарэсу з боку чалавека супрацьлеглага полу. Але калі ў першыя хвіліны знаёмства іскра не праскочыла, працягваць адносіны няма сэнсу.

**Дзева.** Не апускайце рукі і не паддавайцеся дэпрэсіі. Ужо вам і так стала лягчэй. А прыкладзеныя намаганні прынясуць ндзрэнныя вынікі.

**Шалі.** Жаданне перамен накрые вас з галавой. Асноўная прычына – застой у асабістым жыцці. Вам не хапае навізны ў развіцці адносін. Каб не ўзніклі непаразуменні, дакажыце сваёй другой палавінцы, што гэтыя змяненні неабходныя.

**Скарпіён.** Вам прыйдзецца пераканацца ў вернасці сяброў. З некаторымі прыйдзецца развітацца. І не перажывайце з-за гэтага, бо цяпер вы ведаеце, што вакол вас сапраўдныя сябры.

**Стралец.** Цяпер ваш энергетычны патэнцыял невысокі. Больш бывайце на свежым паветры, любуйцеся прыгажосцю восеньскай прыроды, беражыце арганізм ад перагрузак.

**Казярог.** Калі вы зайшлі ў тупік, то не бойцеся папрасіць дапамогі: можа досвед іншых людзей ці кампетэнтная парада прыйдуцца дарэчы.

**Вадалей.** Ваш энергетычны патэнцыял высокі, вы здаровыя і вам пад сілу вырашаць любыя пытанні.

**Рыбы.** Не рабіце паспешных высноў, не ўдзельнічайце ў авантурах і іншых рызыкоўных мерапрыемствах. Будзьце асцярожныя за рулём.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155

9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Камент-эксперт Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**27 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +7 / +15 | | +9 / +13 | | +8 / +14 | | +11 / +15 | |
| | 744 | ↗ 3 | 744 | → 6 | 747 | → 7 | 735 | ↘ 7 |
| Вільня | +8 / +15 | | +9 / +16 | | +8 / +14 | | +10 / +16 | |
| | 752 | ↗ 4 | 753 | ↘ 6 | 755 | → 7 | 754 | ↘ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.14
Захад 19.04
Даўжыня дня 11.50

Усход 10.40
Захад 20.15
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- Узвіжанне (27 верасня). Да гэтага дня ўсё прыбіралася з поля. Было пашыранае перакананне, што ключ ад лета знаходзіцца ў шызай галачкі, якая замыкала лета, адлятаючы ў вырай.
- У каталікоў Міхал (29 верасня). Калі на Міхала з поўначы вецер вее, то не май на надвор'е надзеі.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці баіцеся вы старасці?



**Кацярына Сівакова, Віялета Яраш, школьніцы:**

– Старасці не баімся, бо мы і ў старасці будзем добра выглядаць і будзем актыўнымі. А на пенсіі шмат вольнага часу, можна чытаць ці пакінуць час для ўнукаў.



**Кацярына Цеслік, эканаміст:**

– Пакуль ты малады, здаецца, што так будзе заўсёды. Аднойчы я была ў доме састарэлых і пасля гэтага зразумела адну рэч. Не страшна старэць, страшна, калі ты ў старасці застаешся адзін.



**Сяргей Амельяновіч, жывёлагадоўца:**

– Я пра старасць пакуль не думаю. Яна пачынаецца тады, калі чалавек перастае працаваць, і гэта зусім не значыць, што калі ён выйшаў на пенсію. Шмат яшчэ маладых пенсіянераў. У старасці, канешне, вучыцца катацца на роліках позна, але вось пасведчанне кіроўцы атрымаць рэальна.



**Сяргей Ларчанка, вартаўнік:**

– Баюся, сам не ведаю чаму, але баюся. Хочацца быць маладым. Тры гады таму я ўпершыню адчуў, што трошку стараваты. А пенсіянер зусім не азначае, што стары чалавек. Я вось як працаваў, так і працую ў дзіцячым лагеры.



**Юры Сідарэвіч, навучэнец:**

– Не, я старасці не баюся. Проста не думаю пра гэта. На пенсіі можна займацца мноствам карысных рэчаў. На лецішчы, напрыклад, працаваць ці нарэшце нагулянца ў прыстаўку.



**Мікалай Троцкі, пенсіянер:**

– Не баюся старасці, і сябе старым не адчуваю, хоць мне ўжо 62 гады. На старасць ніякія справы адкладаць не трэба, усё цікавае трэба рабіць у маладосці.



**Анатоль Паўлаў, аніматар:**

– А што такое старасць? У любым узросце чалавек павінен рабіць дабро і любіць людзей. І ніякая старасць не страшная.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Чытайце праз тыдзень:

**Маладзечанскія байкеры сабралі неабходныя рэчы для дзяцей з сямей у сацыяльна небяспечным становішчы і перадалі іх у прытулак. Як прайшла акцыя, чытайце праз тыдзень.**



## КУЛЬТУРА

### У Вілейцы прэзентавалі кнігу "Нарачанка і яе берагі"

**ВІЛЕЙКА. У чытальнай зале раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік 19 верасня прайшла прэзентацыя кнігі Сымона Барыса і Анатоля Рогача "Нарачанка і яе берагі".**

Пачыналі яе ствараць два аўтары, а пасля смерці Анатоля Рогача ў 2010 годзе Сымон Барыс завяршыў кнігу адзін.

У зале наладзілі выставу аб аўтарах кнігі і яе героях, пазнаёмілі з мультымедыйнай прэзентацыяй "Даследчыкі роднага краю", паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі ўстановы **Людміла Тонкавіч**.

Падзяліліся ўспамінамі пра аўтараў і ўражаннямі ад кнігі архітэктар і краязнаўца **Анатоль Капцюг**, колішняя настаўніца **Валянціна Валынец** і іншыя.

**Аддзел інфармацыі.**

## МЫТНЯ

### Спыняецца пешаходны рух

**АШМЯНЫ. Ад 1 кастрычніка ў пунктах пропуску "Каменны Лог" і "Катлоўка", якія знаходзяцца ў зоне адказнасці Смаргонскай памежнай групы, часова нельга прайсці пешшу мяжу. Пра гэта паведамляе БелТА.**

У беларускіх пунктах пропуску няма неабходнай інфраструктуры для пешаходнага руху: асобных пешаходных калідораў, асобных тэрміналаў мытнага і памежнага афармлення.

Сумежныя дзяржавы ўжо папярэджаны ўстаноўленым парадкам.

**Аддзел інфармацыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 39 (1013) 26.09.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 820. Падпісана ў друк у 10.00 25.09.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.